

Памяці Я. Кастыцэвіча→3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960

NR INDEKSU 366714



Здымкі Юзафа Кардаша→4

http://niva.bialystok.pl

redakcja@niva.bialystok.pl

№ 23 (3186) Год LXII | Беласток, 4 чэрвеня 2017 г. | Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)

**У днях 24-28 мая ў Беластоку адбыўся XXXVI Міжнародны фестываль царкоўнай музыкі „Гайнаўка-2017”. Ганаровы патранат над фестывалем трымаў Прэзідэнт Рэчы Паспалітай Анджэй Дуда, а мастацкі патранат — маэстра Кшыштаф Пэндэрэцкі. У ліку галоўных патронаў фестывалю былі таксама Саюз польскіх кампазітараў і прэзідэнт горада Беластока Тадэвуш Трускаляскі. Фестываль адкрыў намеснік прэзідэнта Беластока Рафал Рудніцкі.**

# Фестываль пяючай душы

Журы сёлетняга фестывалю склалі праф. Рамуальд Твардоўскі з Варшавы, праф. Лэся Дычко з Кіева, Анатолій Кісялёў з Масквы, праф. Віялета Мілкоўская з Беластока і а. Юры Шурбак з Варшавы. На фестываль былі заяўлены 26 хароў, у прынцыпе з Еўропы, бо ж хор з сібірскага Краснаярска таксама трэба такім лічыць у плане культурнай спадчыны. Сёлета захад Еўропы прадстаўлялі толькі хары з Польшчы — з Сопата, Варшавы і Гіжыцка, а з поўдня — з Македоніі і Румыніі... З Украіны было сем хароў, з Беларусі — шэсць і з Расіі — пяць. У час фестывалю адбылася прамоцыя кнігі пра а. Юры Шурбака „Życie wypełnione śpiewaną modlitwą” ды прапрэм'ера фільма „Romuald Twardowski. Kompozytor w zwierciadle muzyki”.

Інаўгурацыйны канцэрт выканаў Акадэмічны хор Дзяржаўнай акадэміі музыкі імя Гнесіных з Масквы, а канферансье вёў нястомны прапагандыст і выдатны знаўца царкоўнай музыкі а. Юры Шурбак. Класны быў гэта канцэрт — а. Юры Шурбак апавяшчаў выкананне кожнага твора кароткім штрыхам пра сакральны кантэкст яго з'яўлення ў мастацкай прасторы, а самыя лепшыя маладыя харысты з Расіі — бо так трэба ахарактарызаваць маскоўскі хор пад мастацкім кіраўніцтвам Дзмітрыя Анегіна — напаўнялі той штрых вытанчанай музычнай афарбоўкай.

Фестывалю спадарожнічалі канцэрты ўдзельнікаў фестывалю ў розных мясцовасцях Польшчы: Варшава, Кракаў, Люславіцы, Беласток, Сейны, Нарва, Тыкоцін, Міхалова, Саколе, Легіянова, Студзянкі, Бельск, Белавежа, Крынкі, Васількаў, Невадніца, Райск, Шчучын, Нурэц-Станцыя. Адзін канцэрт, па дарозе ў Беласток, камерная „Магілёўская капэла” дала ў беларускім Камянцы...

Сёлетні фестываль сабраў шырокую палітру выканаўцаў, якія прадстаўлялі багаты спектр царкоўнай музыкі — не толькі такіх класікаў як Сяргей Рахманінаў ці Дзмітрый Бартнянскі, але і менш вядомых творцаў, ды і зусім невядомых, ананімных манахаў з даўніны. І зусім сучасных, у тым ліку кампазіцыі членаў журы Рамуальда Твардоўскага, Лэсі Дычко ды Анатоля Кісялёва.

У катэгорыі прыходскіх хароў першае месца прысуджана Кафедральнаму хору „Знаменне” з Роўна, другое месца хору „Срэценне” царквы св. Яна Хрысціцеля з Мінска, трэція месцы прызначаны ансамблю старавераў „Казачы круг” з Масквы і хору „Камертон” з Гіжыцка.

У катэгорыі свецкіх аматарскіх хароў два першыя месцы журы прысудзіла хору Вайсковай тэхнічнай акадэміі імя Яраслава Дамброўскага з Варшавы і харавой капэле „Дніпро” Кіеўскага нацыянальнага ўніверсітэта імя Тараса Шаўчэнкі, другое месца хору „Ąžuolų klubas” з Вільні, трэцяе месца прызначана камернаму хору „Continuo” з Сопата.



http://festiwal-hajnowka.pl/

■ Акадэмічны камерны хор „Хрэшчатик” з Кіева



Фота Аляксандра Вярбіцкага

■ Хор „Радуга” Дзіцячай харавой школы імя Віктара Роўды з Баранавіч



Фота Аляксандра Вярбіцкага

■ Журы з арганізатарам фестывалю Мікалаем Бушко (трэці справа)

У катэгорыі дзіцяча-моладзевых хароў першае месца прысуджана ўзорнаму хору дзіцячаму хору „Касталія” з Масквы, другое месца ўзорнаму хору „Радуга” Дзіцячай харавой школы імя Віктара Роўды з Баранавіч, трэцяе месца хору „Сем нот радугі” Дзіцячай музычнай школы з Клімаўска ў Падмаскоўі.

У катэгорыі хароў музычных вучэльняў першае месца прысуджана хору Днепрапятроўскай акадэміі музыкі імя Міхала Глінкі, два другія месцы хору Вінніцкай вучэльні культуры і мастацтва імя Міколы Леантовіча і хору „Согласие” Уральскай дзяржаўнай кансерваторыі імя Мадэста Мусоргскага з Екацярынбурга, трэцяе месца жаночаму хору Каледжа культуры і мастацтва імя Івана Агіенкі з Жытоміра.

У катэгорыі прафесійных хароў два першыя месцы прызначана харавому ансамблю салістаў „Тебе поем” з Краснаярска і акадэмічнаму камернаму хору „Хрэщатик” з Кіева ды два другія месцы камернаму хору Гарадской капэлы Магілёва і вакальнаму ансамблю „Acusto” з Коўна.

Былі вылучаны і дырыжоры: Вольга Суарэс з Мінска, Алена Наздраватых з Клімаўска і Павілас Гіліс з Вільні.

Паводле журы ўзровень сёлетняга фестывалю быў вельмі высокі а разнароднасць выступаючых ансамбляў вартая ўвагі. Вельмі радуе шматлюдная прысутнасць публікі ды вялікая папулярнасць царкоўнай музыкі ў дзіцячых, моладзевых, акадэмічных і прафесіянальных выканаўцаў. Пацвярджае гэта важную ролю фестывалю, які стаў месцам узаемаразумення пакаленняў, культур і нацый. Радуе тое, што наш фестываль карыстаецца зацікаўленнем і падтрымкай вярхоўных дзяржаўных, ваяводскіх і мясцовых улад ды медыяў. Выступленні хароў на сёлетнім фестывалі запамятаюцца ўсім слухачам як выключная падзея па духовым і мастацкім узроўні.

Дырэктар дэпартамента нацыянальных інстытутаў культуры ў Міністэрстве культуры і нацыянальнай спадчыны РП Агнешка Комар-Мараўская ад імя віцэ-прэм'ера і міністра культуры і нацыянальнай спадчыны Пятра Глінскага шчыра падзякавала: „Пра фестываль сказана многа мудрых, праўдзівых і хвалюючых слоў. Дадам, што фестываль з'яўляецца таксама формай выказвання тэалогіі”. Перадала яна віншаванні ад міністра культуры і нацыянальнай спадчыны прафесара Пятра Глінскага. „У ліку тых згаданых мудрых і хвалюючых слоў прывяду адну цытату, бо яна з'яўляецца знакамітым дэвізам чакаючай нас неспадзяванкі. Менавіта парыжская „Культура”, якой дух тут з намі, у месцы здзяйснення Гедройцавай ідэі: „Фестываль гэта людзі, гэта людзі фестывалю, якія ідэю задумалі а пасля карпатліва яе здзяйснялі”. І сёння, спадзяюся, фестываль стаў дэ-факта інстытутам культуры, адной з выдатнейшых культурных падзей у краіне і, магу смела сказаць, таксама ў Еўропе ў гэтым маштабе і катэгорыі, глыбока ўнутранай падзеяй”. Міністр культуры Рэчы Паспалітай асабліва падзякаваў двум творцам фестывалю: Ірэну Парфянюк узнагародзіў ганаровай адзнакай „Заслужанай для польскай культуры”, а Міколу Бушко — сярэбраным медалём „Заслужаны для культуры Gloria Artis”. Узнагароджаным Гарадская капэла Магілёва праспявала „Многая лета”...

Айцец Юры Шурбак падзякаваў усім асобам, якія прычыніліся да выдання кнігі „Życie wypełnione śpiewaną modlitwą”. Фестываль завяршыла „Многая лета” ў выкананні зводнага хору лаўрэатаў XXXVI Міжнароднага фестывалю царкоўнай музыкі „Гайнаўка-2017”.

❖Аляксандр ВЯРБІЦКІ





# Раз’яднанне і крайнасці

Непрыемна рэзнулі вока на мінулым тыдні дзве замежныя інфармацыі. У Францыі невядомыя вандалы зганьбілі магілу былога прэзідэнта Францыі генерала Шарля дэ Голя. На яго магіле быў зламаны крыж. Як вядома, Шарль дэ Голь быў заснавальнікам і прэзідэнтам Пятай Рэспублікі. Гэтая асоба — сімвал руху французскага Супраціву ў гады Другой сусветнай вайны. Дэ Голь дастаткова паспяхова кіраваў Францыяй з 1959 па 1969 год. За час яго кіравання былыя французскія калоніі сталі незалежнымі дзяржавамі, а Францыя здабыла ў свеце вялікі аўтарытэт. Тыя, хто руляваў дзяржавай пасля яго спакваля вялі краіну ад традыцыйных каштоўнасцей і хрысціянскай маралі ў фальшывы свет нібыта мультыкультурнасці, псеўдакаштоўнасцей і палітычных гешэфтаў. Асаблівага размаху гэты працэс набраў ужо з сярэдзіны дзевяностых гадоў мінулага стагоддзя. Палітыка ўсіх гэтых „шыракаўаляндаў” прывяла ў выніку да расколу грамадства, размывання нацыянальнай ідэнтычнасці, тэрарыстычных актаў з боку экстрэмісцкіх ісламскіх груповак. Дайшло да таго, што зараз дыскрымінацыі падвяргаецца ўжо карэнная тытульная нацыя, а быць, прыкладам, актыўным хрысціянінам — асаблiва небяспечна ў Пятай Рэспубліцы. Прыгадаем выпадак, калі ісламскі тэрарыст зарэзаў старога святара проста ў храме французскага горада. А зараз во паламалі крыж на магіле дэ Голя. Пакуль невядома, хто гэта зрабіў — чарговыя ісламскія экстрэмісты ці карэнныя французы-атэісты з перакручанымі мазгамі, але гэта не так важна. Галоўнае — што мэтанакіравана, наўмысна паламалі крыж на магіле аднаго з нацыянальных герояў Францыі. Здарылася тое, што яшчэ гадоў дваццаць таму ўявіць было немагчыма.

Іншая ганебная інфармацыя даляцела з-за акіяна. У Новым Арлеане дэмантавалі апошні з чатырох даўніх абеліскаў у гонар Канфедэрацыі паўднёвых штатаў ЗША. Пяціметровай статуі генерала канфедэратаў Роберта Лі, якая прастаяла ў гэтым горадзе ажно 130 гадоў, больш няма на ранейшым месцы. На думку цяперашніх улад штата Паўднёвая Караліна, помнікі выдатным вайскоўцам-канфедэратам сімвалізавалі расісцкае мінулае поўдня ЗША. Вось такія павароты, нават выкрутасы, гісторыі, такі нігілізм. Прыгадаю, што генерал Роберт Лі — адзін з высакароднейшых людзей свайго часу, доўгія гады яго імя было сімвалам вайсковай годнасці, адважнасці, гонару, пры жыцці ўсе, у тым ліку і яго ворагі, лічылі ваяра чалавекам слова і сумлення. Значны час Роберт Лі быў нацыянальным героем усёй Амерыкі, пакуль рэвізіяністы не пачалі перакручваць гісторыю і мяняць ацэнкі гістарычнай постаці на супрацьлеглыя. Пад выглядам змагання з расізмам у Еўропе і Амерыцы ўзніклі шырокія плыні, якія адмаўляюць усё нацыянальнае, усё традыцыйнае, усё праўдзівае. Па ўсім відаць, што амерыканскае грамадства цяпер таксама вельмі раз’яднанае, што і пацвердзілі апошнія прэзідэнцкія выбары.

Праўдападобна мы ўвогуле жывем у эпоху грамадзянскіх расколаў і раз’яднанасці. І што характэрна, гэта не залежыць нават ад палітычнага ладу. Беларусь, Польшча, Украіна, Францыя, ЗША, Карэя, спіс можна доўжыць — вельмі розныя дзяржавы, рознага роўню і развіцця. Але для ўсіх іх сёння характэрны менавіта паглыблены грамадзянскі раскол і раз’яднанасць нацыі. Ці знойдуцца ўрэшце палітыкі, якія здолеюць не паглыбіць, а хоць бы зменшыць гэты раскол — малаверагодна. Правільней сказаць, такія палітыкі напэўна ёсць, але мала імаверна, што пры дзейсных сістэмах яны могуць прыйсці да ўлады. А таму бліжэйшым часам варта чакаць чарговых грамадзянскіх канфліктаў. І новых тэрарыстычных актаў, падобных таму, што здарыўся тыдзень таму ў брытанскім Манчэстэры. Бо пакуль кіроўныя эліты не назавуць рэчы сваімі імёнамі і не паставяць горкі, але праўдзівы дыягназ стану сваіх грамадстваў, не прызнаюць тупіковасці сваёй недальнабачнай палітыкі, ніхто нават не будзе шукаць выхаду з хваробы і пасапраўднаму дзейсных лекаў ад яе.

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

# Вось што!

Я асабіста лічу, што дарога ў Дамаск ужо даўно зарасла пырнікам. Цікава, што падобна лічыць прафесар Ядвіга Станішкіс. Нядаўна раскапаў я са свайго асабістага архіва прэсы выразку яе заявы ў неіснуючай ужо газеце «Dziennik». — «Для мяне, — казала прафесар, — усе якія-небудзь радыкальныя змены падазроныя, таму што я лічу, што чалавек мае вельмі невялікі патэнцыял для змен. Чалавек гэта сапраўды машына, можа толькі ваганне, пераходжанне ўзроўню да ўзроўню. Магчымая вучоба, але не перамена». Горкія словы, але, мабыць, бліжэйшыя за ўсё да ісціны пра кожнага з нас.

У свой час наведваў мяне даволі часта Олесь. Яшчэ да свайго цудоўнага пертатварэння. Можа не Олесь, але ж калега з суседняга мястэчка — аднагодак з рысай беларускага абраду, сваёй «ягонай» мовай і праваслаўнай традыцыяй. Справа, аднак, у тоеснасці ў яго рысах. Таму што Олесь не пярэчыў сваёй фармальнай польскасці, але не размахваў сваёй прыроднай беларушчынай. Унутранага канфлікту з-за гэтага ў сабе не насіў, але хто ведае, можа быць, ужо носіць. На самой справе, ён не вылучаўся з ліку іншых пушчанскіх маіх сяброў і суседзяў — або праваслаўных, або каталікоў. Гэта зусім не азначае, што іх падзяляе тонкі антаганізм рэлігійнага абраду. Антаганізм, а можа толькі ўзаемны недавер. Дагэтуль гаворка ішла толькі пра семантыку. Або пра рытуал. Але не дай Бог палітыку. Але лёгка запаліць кнот. У праваслаўна-каталіцкіх вёсках да нядаўняга часу не было прынята адзначаць касцельныя святы, размахваючы папскімі сцягамі, часта ў кампаніі польскіх нацыянальных. Цяпер відаць, у якой хаце католік, а ў якой не. Хто паляк, а хто не. Олесь быў, ёсць і будзе верным праваслаўю. Але да католікаў нічога не мае, і пакуль што не будзе мець, да палякаў таксама. Ва ўсякім выпадку, чаму ж мела б быць інакш. Ён з’яўляецца грамадзянінам Польшчы. Жыве так, як умее, паміж Пушчай і пушчанскімі людзьмі. У Польшчы, не ў Беларусі. Газет не чытае — ані польскіх, ані беларускіх; кніг таксама. Тэлебачанне, вядома, глядзіць, перш за ўсё фільмы (маю на ўвазе серыялы). Кожны дзень галавы глупствамі не марочыць, палітыку мае ў попе. Гэта з’яўляецца неабходнай умовай, каб не сысці з глуздоў. Тое, што зараз адбываецца ў Польшчы, не лезе яму ў галаву. Олесь,

як і многія ягоныя сябры, у рэшце рэшт нешта чуў, нешта ведае, але сёння ён нічога не разумее. Белае ўжо не белае, чорнае не чорнае. Усё пашарэла. А Олесь у шэрасці ніяк не разбіраецца. Такім чынам, ён узяўся за справу. Тут вось наступіў карэнны перало́м — дарога ў Дамаск. Захацелася Олесю аднавіць страчаныя колеры. Змардаваны даўгамі жыцця і штодзённай мітуснёй, стаў летуценіць перада мной, што б гэта зрабіў бы ён, калі б лёс паслаў яму па-сапраўднаму вялікія грошы. Таму купіў бы кватэру, іншаму тое... — пералічваў па чарзе ўсіх, хто дапамагаў яму, падтрымліваў добрым словам або пазычыў яму грошы ў крызісных сітуацыях — ... і нават зрабіў ласку для мяне, схацеўшы назначыць мне пажыццёвую стыпендыю, каб я мог спакойна пісаць. Олесь адкрыў такім чынам яшчэ адно акно ў маім свеце. Шмат акон або малюсенькіх аконцаў парасчыняў мне раней. Мімаволі, аднак, я адчуваў, што шэрагам падсвядомых сігналаў, маніпуляцыяй невялікіх прыслуг і тонкіх шпрыцаў сваёй уласнай жыццёвай бяды ў мой чуйны эмпатычны орган ублытвае ён мяне ў яго асабістыя гісторыі для адной мэты: каб пазычыць яму грошай. Грошай, у рэшце рэшт, якіх у мяне няма. Калі я адмовіўся ад пазыкі, Олесь сеў на ровар і паехаў дадому. Не простай дарогай, аднак, а неяк віхляючы паміж лясных дарог. Я зразумеў тады, чаму Олесь аб’язджае кожны другі магазін у нашым мястэчку (у выпадку няўплаты), чаму з кімсьці вітаецца цёпла, з кімсьці прахаладна. І чаму, нарэшце, распавядае аб маім праекце рэканструкцыі кухоннай падлогі; аб праекце, які я абмяркоўваў з ім у якасці эксперта, у самых агульных рысах, без якіх-небудзь тэрмінаў і дэкларацый. А ўсе пытаюцца, калі Олесь пачынае ў мяне работу. Ну вось, калі? А чаму Олесь?

Ну, таму што Олесь! Некалькі дзён таму ён патэлефанаваў мне вельмі абураны.

— Гэта я адмовіўся ад добра аплатнай работы ў іншых, каб зрабіць падлогу ў цябе, а ты, чуў ад людзей, адмаўляешся ад гэтага? Ты ведаеш, што?.. Калі выйграю ў латарэю, ад мяне атрымаеш дулю! А падлогі табе я не зраблю. Вось што!..

**Міраслаў ГРЫКА**



## Сваімі вачыма

# А ў пушчы сіла

«Я е», — ці ж гэта не самы кароткі сказ, які мне прыдумаўся пра нашу зямную прысутнасць. Скланяць слова-літару «е» таксама файная моўная гульня. Пішу менавіта ў настроі моўна-слоўных разважанняў, бо апошнія выходныя правёў я ў кампаніі людзей пяра, для якіх кожнае слова не з’яўляецца пустым гукам. На фоне прыроды ўсе нашы размовы пра жыццё і літаратуру кружылі вакол лёсу пушчанскіх людзей і гісторыі. Я адчуў проста, што знаходжуся ў самым эксклюзіўным купэ цягніка, які называецца пушчанскі дух. Такі наш «Арыент-экспрэс», у якім даецца месца кожнаму, хто захоча, без вялікіх грошай. Свет дарыў сонца, водар вясны, шаленства птушынага спеву. І менавіта зязюля была той птушкай, якой голас чутны ад усходу да захаду сонца. Ну, а што ж ёй рабіць, калі свае яйкі падкідвае іншым птушкам. Толькі куваць. Нашы шпацыры па пушчы былі дапаўненнем таго шчасця, якое называецца свабодай. А можа менавіта так выглядае рай для нас, пушчанскіх беларусаў. Цікава, калі пастукаем у нябесныя вароты, ці ахоўнікі зразумеюць, калі будзем гаварыць па-свойму? Але ж такіх нацыянальнасцей як мы ёсць сотні і, здаецца, на шчасце Бог разумее ўсе мовы. Каб яшчэ толькі нашы святары пра гэта памяталі.

Менавіта прырода, добрая кампанія, някепскае піва і закусь увялі нас у свет рэальнасці і магічнасці. Я таксама ўрэшце выспаўся, што ў штодзённым варыянце не з’яўляецца такой простай справай. Ну, і яшчэ адбылося нешта такое, чаго я розумам не пайму. А менавіта адноснасць часу ў вымярэнні тэхнікі. Справа менавіта ў тым, што мой мабільнік проста здурэў. Калі раніцай я прачнуўся і гляну́ў на гадзіну і дату, то даныя на мабільніку паказвалі мне роўненька дванаццаць гадзін да заду. Не ведаю, чыя гэта справа. Можа чараў, а можа блізкасці вышак беларускіх аператараў мабільнай сувязі, а можа сілы прыроды зрабілі такі нумар. І калі я вярнуўся ў Беласток, то і мабільнік таксама вярнуўся ў рэальны час. Тое, што здарылася, не было маім нейкім п’яным прывідам, але фактам. Каб было цікавей, то ў мабільніку майго сябра час змяніўся на гадзіну ўперад. Так, што калі вы, дарагія чытачы, хочаце пражыць неверагодныя гісторыі, дык абавязкова паедзьце ў нейкае пушчанскае зацішша і паддайцеся той наканаванасці, якая напэўна кожнаму падыме адрэналін. І можаце яшчэ наслухацца незвычайных расказаў пра зуброў, дзікоў, баброў, ад якіх вам стане не толькі страшна, але часам і трагікамічна. Адну такую гісторыю распавёў мне мой сябра.

Адна бабуля за хатай складала траву, каб зрабіць з гэтага кампост для агарода. І менавіта тады прыйшоў зубр, усё з’еў і проста на тым месцы ўзяў і нас... Ну, такога проста не прыдумаеш. Гэта жыццё прыносіць такія літаратурныя вобразы. Таму няхай паўзуць слімакі, гудзе чыгунка, у прыгожых капелюшах шпацыруюць дзяўчаты, а мы за тым усім можам наглядаць. Проста кайф.

На мінулым тыдні адсвяткавалі мы Івана і Міколу. Гэта ж у нас самыя папулярныя імёны пакалення маіх дзядоў і бацькоў. Так склалася, што мой дзед называўся Мікалай, тата называецца Іван, брат таты таксама Мікалай, а мой малодшы брат — Іван. Два родныя маміны браты таксама называліся Коля і Ваня. У маёй роднай вёсцы вышэйзгаданых імён была проста процьма. І калі ў пятніцу наведаў я свае вярстоцкія могілкі, то мая ўвага засяродзілася на імёнах адышоўшых прыхаджан. «Мы е», — падумалася мне, хаця ляжым на могілках. Мы ўсе туды трапім, але ці памяць пра адышоўшых не будзе таксама знікаць у наступных пакаленнях. Сустрэтая на могілках суседка нават засумнявалася, ці будзе яшчэ хтосьці ахвотны, каб адвесці нас у апошнюю дарогу. Вось рэальнасць сённяшняга чалавечага вымярэння. Таму, каб не здарылася з намі такое, сябруйце людзі з сабою. А тады і пражыць жыццё будзе ўсім нам лягчэй.

**Яўген ВАПА**


У спектаклі «Добры дзень, Яраслаў Васільевіч» пад кірункам Іаанны Стэльмашук-Троц (стаіць справа) выступілі вучні бельскай «тройкі»: Максім Фіёнік, Інеса Гапанюк, Каміль Ярашэвіч, Ніка Юрчук, Патрыцыя Нічыпарук, Паўліна Нямыйская, Уршуля Алексяк, Юстына Саковіч, Юлія Скарбіловіч, Пётр Свідэрскі і Аляксандра Зінкевіч

ад супрацы з Іааннай Стэльмашук-Троц, якая навучыла нас як індывідуальна весці сябе на сцэне і ўдала аб'ядняла ўсіх на сцэне. Мы ад яе многаму навучыліся і супольна прыемна правялі час.

— Рыхтуючыся да спектакля «Добры дзень, Яраслаў Васільевіч», мы не пачыналі з нуля. Вучні-акцёры гэта перш за ўсё члены тэатральнай групы «Антракт» Бельскага дома культуры і калектыву «Жэмэрва» са Студзіводаў. Усе яны ведаюць, што рабіць на сцэне, як спяваць і іграць на музычных інструментах. Таму лёгка мне было працаваць. Мы засяродзіліся на спектаклі, які будзем яшчэ паказваць, — сказала Іаанна Стэльмашук-Троц. — Я адкрыта на чарговыя тэатральныя ініцыятывы ў Бельску, паколькі зараз тут жыву.

— Мы ўдзячны Іаанне Стэльмашук-Троц за падрыхтоўку да спектакля, у якім стараліся паказаць Яраслава Кастыцэвіча такім, якім ён быў для вучняў. Хаця зараз іншыя ўмовы навучання, мы хацелі б, каб у нашай школе была такая суровая дысцыпліна, як у час дырэктара Кастыцэвіча. Лічым, што выбар Яраслава Кастыцэвіча на патрона нашай школы быў добрым выбарам, — сказалі вучні «тройкі» **Аляксандра Зінкевіч** і **Уршуля Алексяк**.

# Яраслаў Кастыцэвіч — стваральнік беларускага школьніцтва ў Бельску-Падляшскім

**Спектакль «Добры дзень, Яраслаў Васільевіч» аб славутым стваральніку беларускага школьніцтва ў Бельску-Падляшскім Яраславе Кастыцэвічу, былым шматгадовым дырэктару Агульнаадукацыйнага ліцэя з беларускай мовай навучання ў Бельску і цяперашнім патроне Комплексу школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Бельску займальна і па-акцёрску запрэзентавалі 22 мая ў Бельскім доме культуры белгімназісты бельскай «тройкі». Удала падрыхтаваліся яны да выступу пад кірункам нашага беларускага рэжысёра і акцёра Іаанны Стэльмашук-Троц і настаўніц «тройкі» Валянціны Бабулевіч і Анны Фіёнік. Мерапрыемства ладзілася ў рамках ІІІ Дзён славянскай пісьмовасці і культуры «Пралог», якія праходзілі ў Бельску-Падляшскім.**

**Іаанна Стэльмашук-Троц** прыдумвае да сваіх спектакляў адмысловае сцэнічнае афармленне і так было на гэты раз. На сцэне БДК публіка, якая запоўніла канцэртную залу, убачыла прадметы штодзённага карыстання падобныя да тых, якімі карысталася сям'я Яраслава Кастыцэвіча і ён сам. Быў, між іншым, ровар, паколькі Кастыцэвіч на веласіпедзе ездзіў па вёсках вакол Бельска і ўгаворваў вучняў паступаць у беларускі ліцэй.

— Мы з вучнямі спачатку спаткаліся з асобамі, якія ведалі дырэктара Яраслава Кастыцэвіча і спісалі ўспаміны аб ім. Услухаліся ў іх аповеды, каб адчуць атмасферу ў белліцэі тады, калі ім кіраваў Яраслаў Кастыцэвіч. Карысталіся таксама матэрыяламі аб дырэктары, сабранымі між іншым Дарафеем Фіёнікам, — скажа пасля спектакля Іаанна Стэльмашук-Троц з Тэатра «Чрэва», аўтарка сцэнарыя і рэжысёр спектакля «Добры дзень, Яраслаў Васільевіч».

Спектакль збудаваны на ўспамінах, пачынаючы з дзяцінства і маладых гадоў героя спектакля, а канчаючы на яго смерці. Звяртаецца ў ім увага на важнейшыя моманты з жыцця Яраслава Кастыцэвіча. Нарадзіўся ён у 1896 годзе ў Пасынках у сям'і настаяцеля тамашняга праваслаўнага прыхода айца Васілія Кастыцэвіча. Яго дзед і прадзед таксама былі святарамі, служылі ў царкве ў Пасынках і каля яе пахаваныя. З 1907 года Яраслаў стаў жыць у Бельску-Падляшскім, паколькі яго бацька стаў настаяцелем Свята-Троіцкага прыхода. Адсюль выязджаў вучыцца ў гімназіі ў Гродне і Белай-Падляшскай. У 1914 годзе Яраслаў Кастыцэвіч стаў студэнтам юрыдычнага аддзялення ўніверсітэта ў Пецярбургу, а ў 1916 годзе быў мабілізаваны ў армію і паступіў у афіцэрскую школу ў Кіеве. Змагаўся на Каўказскім фронце. У міжваенны перыяд ажаніўся. З жонкай і дачкой жыў у Бельску. Пасля ўсталявання савецкай улады ў 1939 годзе пачаў ён працаваць настаўнікам у Бельску. У 1941 годзе па фальшывым даносе быў арыштаваны энкавэдзістамі і вывезены ў турму ў Ломжу, а яго жонка і дачка былі сасланы ў Алтайскі край. У час нямецкай акупацыі Кастыцэвіч арганізаваў беларускае школьніцтва, а таксама наладзіў пачатковае навучанне ў сваім доме. Пасля вайны Яраслаў Кастыцэвіч арганізаваў Дзяржаўную беларускую гімназію і Пачатковую школу ў Бельску, стаў дырэктарам беларускай гімназіі. Аднак яна хутка была ліквідавана і тады перайшоў на працу ў іншую школу.

Слушна зрабіла рэжысёр, паказваючы ў спектаклі атмасферу ў Бельскім белліцэі, калі ім кіраваў Яраслаў Кастыцэвіч. У 1949 годзе арганізаваў ён Беларускі ліцэй і Пачатковую школу ў Бельску-Падляшскім і з гэтага моманту аж да выхаду на пенсію ў 1970 годзе Яраслаў Кастыцэвіч быў дырэктарам Бельскага белліцэя. Дзякуючы яго намаганням быў узведзены сённяшні будынак белліцэя. Дырэктар Кастыцэвіч быў несумненным аўтарытэтам для вучняў і бацькоў. Моладзь падчас спектакля распавядала, як Яраслаў Кастыцэвіч ездзіў па вёсках Бельшчыны і ўгаворваў бацькоў пасылаць дзетак у сярэднюю беларускую школу. З настаўнікамі намагаўся навучыць многаму ліцэістаў. Моладзь разам з дырэктарам Кастыцэвічам і настаўнікамі, калі было гэта яшчэ магчымым, хадзілі супольна ў царкву на багаслужбы.

— Памёр Яраслаў Кастыцэвіч нечакана ў 1971 годзе. Многа людзей прыйшло на пахаванне развітацца з ім. У мяне таксама заўсёды былі добрыя адносіны з Яраславам Васільевічам, — заявіў пасля спектакля **Аляксей Сычэўскі**, зяць Кастыцэвіча.

— Яраслаў Кастыцэвіч быў патрабавальным дырэктарам, але адначасна вельмі любіў сваіх вучняў і дапамагаў нам, калі была такая патрэба, — заявіла жанчына пасля спектакля.

— Мы хацелі паказаць Яраслава Кастыцэвіча перш за ўсё як дырэктара Беларускага ліцэя ў Бельску, — заявіла Іаанна Стэльмашук-Троц.

Вучні паказвалі моманты з жыцця белліцэя, калі дырэктар Яраслаў Васільевіч моцна дбаў пра дысцыпліну ў школе і стараўся, разам з іншымі настаўнікамі белліцэя выхаваць вучняў на прыстойных людзей. Былі аповеды пра музычны калектыў у школе, «стаднёўкі» і працу з вучнямі па-за школай. Белгімназісты спявалі таксама песні, якія гучалі ў часы Яраслава Кастыцэвіча і праспявалі гімн Бельскага белліцэя «Люблю наш край».

У спектаклі па-акцёрску выступілі вучні бельскай «тройкі» Максім Фіёнік, Інеса Гапанюк, Каміль Ярашэвіч, Ніка Юрчук, Патрыцыя Нічыпарук, Паўліна Нямыйская, Уршуля Алексяк, Юстына Саковіч, Юлія Скарбіловіч, Пётр Свідэрскі і Аляксандра Зінкевіч. Публіка доўга і горача апладзіравала выканаўцам спектакля, а тыя некалькі разоў выходзілі на сцэну, каб пакланіцца публіцы і падзякаваць за вельмі цёплы прыём. Вучням і іх апекунам падзякавалі на сцэне дырэктар «тройкі» Барбара Скепка і Дарафей Фіёнік, старшыня Аб'яднання «Музей малой айчыны ў Студзіводах», галоўны арганізатар ІІІ Дзён славянскай пісьмовасці і культуры «Пралог». Спектакль удастоілі бургамістр Бельска Яраслаў Бароўскі, былы дырэктар «тройкі» Васіль Ляшчынскі і вучні дырэктара Яраслава Кастыцэвіча.

— Для мяне неспадзеўкай было, што Яраслаў Кастыцэвіч слаба спяваў. Рыхтуючыся да спектакля, я даведаўся многа цікавага аб патроне нашай школы, чаго нельга даведацца з афіцыйнай інфармацыі аб Кастыцэвічу, — гаварыў **Максім Фіёнік**, які вылучаўся акцёрскай ігрой на сцэне. — Мы пад вялікім уражаннем


Пасля спектакля адбыўся канцэрт калектыву «Быліна» з Вісагінас у Літве (на першым плане стаяць Дарафей, Альжбета і Анна Фіёнікі)

— Дзякуючы спектаклю я больш даведалася пра патрона нашай школы. Мы хацелі паказаць, што быў ён добрым чалавекам, педагогам і дырэктарам, які як патрон школы павінен быць прыкладам для нас, маладых людзей, — заявіла белгімназістка **Інеса Гапанюк**.

— Калі б не намаганні Яраслава Кастыцэвіча, складана было б захаваць у Бельску беларускі ліцэй, не гаворачы ўжо пра пачатковую школу з навучаннем беларускай мовы. Старэйшыя жыхары падбельскіх вёсак да сёння ўспамінаюць, як дырэктар Яраслаў Кастыцэвіч прыязджаў на ровары на вясковыя прыхадскія святкаванні, каб угаворваць вучняў паступаць у белліцэй. Наведваў таксама сваіх вучняў дома і стараўся ім дапамагаць у складаных жыццёвых абставінах. Быў патрабавальным, суровым, але мілуючым моладзь педагогам і з узаемнасцю, — выказваецца на сайце бельскай «тройкі» Дарафей Фіёнік.

— Наша гімназія ў выніку рэформы пераўтвараецца ў Пачатковую школу № 3 з захаваннем патрона — Яраслава Кастыцэвіча, — сказала дырэктар «тройкі» **Барбара Скепка**.

Былы дырэктар «тройкі» Васіль Ляшчынскі высока ацаніў выступленне белгімназістаў і спосаб прэзентацыі матэрыялаў аб патроне школы Яраславе Кастыцэвічу. Адказнымі за падрыхтоўку спектакля «Добры дзень, Яраслаў Васільевіч» былі Тэатр «Чрэва» і Комплекс школ з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Бельску-Падляшскім. Бельскі дом культуры даў магчымасць паказаць беларускае прадстаўленне аб патроне бельскай «тройкі». Пасля спектакля адбыўся канцэрт калектыву «Быліна» з Вісагінас у Літве.

ІІІ Дні славянскай пісьмовасці і культуры «Пралог» арганізавалі Музей малой айчыны ў Студзіводах і Праваслаўны прыход Пакровы Божай Маці ў Бельску (тут адбываліся багаслужбы ў рамках святкавання), у супрацоўніцтве з іншымі ўстановамі. У рамках мерапрыемства ў Парку каралевы Алены ў Бельску адзначалася 500-годдзе беларускага і ўсходнеславянскага друкарства. З гэтай нагоды прайшоў кірмаш усходнеславянскіх кніжак, у тым ліку беларускіх. У белліцэі і «тройцы» адбыліся спатканні з беларускімі пісьменнікамі і даследчыкамі, а ў Гарадской публічнай бібліятэцы — навуковая канферэнцыя. Адбываліся ў Бельску таксама іншыя мерапрыемствы, між іншым канцэрты музычных калектываў. Важным момантам была прэзентацыя ў Бельскім доме культуры акцёрамі з Рэспублікі Беларусь беларускай фольк-рок-оперы «Чарадзей», пастаўленай на гістарычных матывах з жыцця і дзейнасці на беларускіх землях у XI стагоддзі славутага князя Усяслава Чарадзея.

Тэкст і фота **Аляксея МАРОЗА**

# Ці мяне яшчэ памятаеш?

**У нядзелю 21 мая Майстэрня кіно, фатаграфіі і гуку «Нязбодка» запрасіла на сустрэчу ў Міхалове. Тут, якраз у цэнтры гэтай мясцовасці меў сваё фатаграфічнае атэлье Юзаф Кардаш. Зрабіць сабе здымак прыходзілі міхалоўцы, прыязджалі жыхары Гарадка, Ялоўкі, Новай Волі і іншых мясцовасцей. Спадар Кардаш фатаграфаваў царкоўныя і касцельныя ды грамадзянскія шлюбы, вяселлі, здымаў партрэты да розных білетаў і пасведчанняў, групавыя фатаграфіі ў школах, грамадскія сустрэчы, мітынгі і ўрачыстыя вечары, а таксама будзённыя дні ў розных прадпрыемствах.**









— Мы паказваем фатаграфіі, зробленыя тысячам жыхароў усіх навакольных сёл і мястэчак у 1967-1977 гадах. Агульная колькасць фатаграфій складае амаль пяць тысяч. Большасць з іх пакуль нераспазнаная. Мы спадзяемся, што з дапамогай усіх тых, хто наведвае нас, мы можам расшыфраваць хоць частку герояў здымкаў спадара Кардаша. Мабыць, хто-небудзь пазнае на здымках сваіх бабуль і дзядуль, бацькоў, суседзяў і, магчыма, нават самых сябе? — казаў Тамаш Віснеўскі, кіраўнік МКФіГ. — Хто пазнае людзей на здымку, атрымлівае яго сканіраваны чысты адбітак. Госцем нашай сустрэчы з'яўляецца таксама Анджэй Каспяровіч, «наш Капернік», які зваруxнуў тое, што 17 гадоў таму было спынена — вярнуў хаця на лета рух цягнікоў паміж Беластокам і Станцыяй Валілы ў Гарадоцкай гміне. Выдаў ён кнігу «130 гадоў Палескай чыгункі» — у ёй шмат інфармацый і здымкаў пра месцы і людзей з нашай зямлі, якія працавалі на чыгунцы, ездзілі на ёй.

Пасля сустрэчы разам з маладымі стваральнікамі Таварыства «Чыгуначнае Падляшша» Адамам Міхневічам, Дам'янам Юрчуком і Паўлам Шрайдэрам (старшыня) праедземся па мясцінах кудою «хадзіў» цягнік, знойдзем сляды і памяткі герояў таксама Кардашовых здымкаў.

Сама майстэрня «Нязбодка» (старая назва Міхалова) з'яўляецца адзінай такой галерэяй у Польшчы. Змяшчаецца яна ў старадаўнім будынку па вуліцы Фабрычнай, 33. Калекцыя МКФіГ уключае ў сябе дзясяткі тысяч музейных экспанатаў, у тым ліку каля 10 тысяч арыгінальных паштовак і старых фатаграфій, карты, гравюры, малюнкі, паштовыя маркі і штампы і іншыя архіўныя дакументы з польскіх, беларускіх, расійскіх, украінскіх земель, дакументы і здымкі беларусаў, палякаў, палешукоў, караімаў, татараў... Мае таксама багатыя зборы з часу Другой сусветнай вайны — каля дзесяці тысяч арыгінальных фатаграфій, выкананых нямецкімі салдатамі Вермахта, Люфтвафе і СС. А таксама здабыткі сучасных таварыстваў, м.інш. Таварыства фільмавай адукацыі ці Згуртавання «Шукаем Польшчы». У стылёва зробленым інтэр'еры выставачнай залы размешчаны дзевяць інтэрактыўных панэляў, змяшчаючых 50 гадзін фільмавага матэрыялу аб культурнай праблематыцы. Ёсць гістарычныя фільмы, дакументы пра цікавых людзей з Падляшскага ваяводства і цікавых месцах рэгіёна (ёсць м.інш. фільмы пра Сакрата Яновіча і Міколу Гайдука). Маюцца фільмы таксама аўтарства творцаў з Міхалова, м.інш. Бартка Трызны і Лукаша Саковіча.

Для мэт галерэі быў прызначаны стары будынак былой майстэрні Комплексу прафесійных школ у Міхалове. Будынак пашырылі, рэканструявалі і ацяплілі, замянілі на ім дах, адаптавалі да новых функцый. Было набыта поўнае абсталяванне для патрэб галерэі і майстэрні. Інвестыцыя была пераробленa для задавальнення патрэб людзей з абмежаванымі магчымасцямі. Рамонт драўлянага дома доўжыўся амаль год, але вынікі ўражваюць. Горад атрымаў з руіны проста чароўны, кліматычны будынак, візітную картку, мабыць больш уражваючую чым імпазантная міхалоўская ратуша. Працягваюцца працы над лічбавізацыяй і стварaецца выстава мультыкультурнага маштабу, запаўняюцца зместам фільмавыя панэлі. Гэты адукацыйна-дэкаратыўны элемент пастаянна ўдасканальваецца, стварaючы свайго роду жывы летапіс рэгіёна.

— Мы робім моцны акцэнт на гісторыю і творчасць паграніччa. Галерэя змяшчае матэрыялы з Літвы, Нямеччыны, Украіны, Беларусі, з асаблівым акцэнтам на гарады Гродна, Вільня, Ваўкавыск, Міхалова і Беласток, — кажа Тамаш Віснеўскі, дырэктар галерэі і ініцыятар праекта. — Між іншым прадстаўляем сучасную фатаграфію пад працоўнай назвай «Краса Падляшша». Цікавінкай для наведвальнікаў была між іншым прэзентацыя ў 3D «Архітэктуры драўляных цэркваў на Падляшшы»...

Майстэрняй рыхтуецца кніга «**Siemianówka. Łączy nas wielka woda**», у зборах і выданні якой прымаюць удзел дзве гміны — Міхалоўская і Нараўчанская, якія раздзяляе і спалучае Семяноўскае вадасховішча; выбар здымкаў — Аляксандра Кардаша, які таксама за тое, каб і ў кнізе, і на паштоўках, якія ўжо выдадзены ў тысячных тыражах — былі таксама надпісы па-беларуску. Дарэчы, прозвішча Кардаш венгерскага паходжання, даволі папулярнае сярод тутэйшых беларусаў, а Лукша — літоўскага паходжання. На адной з паштовак (на іх вёскі залітыя «возерам» і навакольныя) бачым людзей з Буд — славутую «аркестру» Лукшоў — на здымку Міхал Лукша з гармонікам (Міхал Лукша з Буд таксама цікавы фатограф і засталася па ім багатая і пазнaчаная ім фатаграфічная спадчына — таксама ўвекавечаныя тутэйшыя мясціны і людзі); тут яшчэ відаць яго сына Яўгена — бубнача. Ягоныя здымкі — не заўсёды класна праяўленыя, не цалкам трапна кампанаваныя, як і сярод тых, што былі знойдзены на падстрэшку дома **Юзафа Кардаша**. Вядомыя былі раней здымкі местачковага фатографа, апрацаваны ім, да якіх ён прызнаваўся, а тыя проста ён адклаў, не прыдаліся яму. Дом прадала яго дачка Тамара Кардаш, купілі яго чужыя людзі, якія таксама не цікавіліся, што там за скарбы валяюцца на падстрэшку дома. Толькі іхні сваяк дабраўся туды і выявіў, што там тысячы фотафактаў з тутэйшага жыцця. З імі і прыйшоў да спадара Тамаша.

У майстэрні тыя здымкі з фотаплёнкі былі перакінуты ў лічбавы выгляд. Яны цяпер з'яўляюцца фотахронікай звычайнага тутэйшага жыцця. Хаця былі папраўдзе самім фатографам выкінуты, добра, што проста не на сметнік, і захаваўся на іх той будзённы і святочны час — з жыцця школак, якія ўжо не існуюць, з быцця прадпрыемстваў, сямейныя здымкі са школьных «ёлачак», фірмавых застолляў, першамайскіх маніфестацый, здымкі з конікамі і аўто — каштоўнымі набыткамі. Гледачы сабраныя ў выставачнай зале ўзіраліся ў вобраз кінуты на экран, пазнавалі знаёмых, сяброў, настаўнікаў, суседзяў, работнікаў кааператываў, «Імшара», пажарнікаў, міліцыянтаў, чыгуначнікаў... Некаторыя з гэтых людзей яшчэ жывуць. Найцяжэй распазнаць людзей, якія былі ў той час малечамі. Многа было і смеху, і пераклікавання. Аж часам неразборлівага, а сябра майстэрні тут жа і запісваў разгаданых на чорна-белым экране.

— Асташэўскія Ніна і Павел... Не, гэта з Новай Волі. А тут усе працаўнікі цагельні. Самоцюк. А гэта «**Wytwórnia Wód Gazowanych i Rozlewnia Piwa**». Што, такая была ў Міхалове? Так, тут, дзе цяпер пякарня ёсць...

Узнікаюць і легенды. Таксама і пра самога фатографа, якому тыя, што памятаюць, прыпісваюць легендарную скупасць, і таямнічае падвойнае асабістае жыццё, мабыць прыдуманае суседзямі. Варта было б пра яго проста кнігу напісаць, дарэчы, як пра кожнага жыхара цяперашняга горада Міхалова, а калісь мястэчка Нязбодкі — яўрэяў, беларусаў, палякаў, немцаў... Ды не кожны мае талент і да пісання, і іншага мастацтва. Унучка Юзафа Кардаша — Магдаліна Салавянюк — маладая вядомая графічка, яна ў сваіх працах таксама запісвае тутэйшасць. І на здымках Юзафа пазнала Магдзіну маці Тамару — з сабачкам і доўгімі сплеценымі залатымі косамі. Яна і цяпер носіць тыя «варкочы». Толькі крыху мяне здзіўляе, што сам спадар Тамаш абышоў найбліжэйшых сваякоў фатографа, хаця раней атрымаў іх тэлефоны і адрасы. Казаў, што не мог з імі скантактавацца і паразумецца. Калі справа невядома ў чым, дык вядома ў чым?.. Гэтая інтэлектуальная і мастацкая каштоўнасць тычыцца таксама самых блізкіх спадчыннікаў. І не выкідвайма сваіх «старых» здымкаў, як Ян Крантоўскі, «бо іх няма каму пакінуць і хто іх пайме».

Але шмат што ляжыць і гніе — быццам бы нічыё яно. Праехаліся мы з сябрамі з «Чыгуначнага Падляшша», і знайшлі наступныя памяткі — у закінутай кашарцы ў Зубках — мундзіры чыгуначнікаў, працоўны чыгуначны білет Зміцера Лукашэвіча. У разбітыя вокны вецер дзьме ў карціны — малюнак з аленямі, танцуючыя німфы. Гэтыя суседскія алеадрукі памятае Тамара Болдак-Яноўская, пісьменніца, дачка пуцявога абходчыка з суседняй кашаркі, дзе яна нарадзілася.

Ці памятаеш ты мяне, чалавека з памежных шляхоў гісторыі? Яна часта цэнтральна пераваліласа па дамах і душах — засталіся толькі аскепкі. Дык збірайма іх, каб не ўмёрлі, мы самі таксама.

Міра ЛУКША

# Чытальніцтва ў Арлянскай гміне

Гмінная публічная ды школьная бібліятэкі ў Орлі існуюць бадай ад пасляваенных гадоў. Яшчэ да 1990 года ў Арлянскай гміне, апрача школьнай філіі ў Малінніках і публічнай у Градалях, дзейнічала шэсць бібліятэчных пунктаў — у Кошках, Дыдулях, Рыгораўцах, Маліннікох, Тапчыкалах і Москаўцах. У 1990 годзе філія ў Градалях і ўсе бібліятэчныя пункты былі закрыты, а кнігі адтуль трапілі ў школьную бібліятэку ў Малінніках. У 2002 годзе закрылі школу ў Малінніках і 6 183 кнігі трапілі ў Орлю, але паколькі такія ўжо тут былі, яны аказаліся непатрэбнымі. З таго часу жыхары заходняй часткі гміны пазбаўлены магчымасці карыстацца бібліятэчнымі паслугамі.

А як у прынцыпе вясковыя людзі падыходзяць да чытання? З гэтым пытаннем я сустрэўся зусім выпадкова. У арлянскай краме, у дзень нейкага свята, перада мною стаяла ў чарзе старэйшае вясковае сужонства. Жанчына купіла харчовыя прадукты, а ейны муж адышоў у бок і вярнуўся з дзвюма газетамі. Хацеў, каб жонка далічыла іх да рахунку; відаць было, што вельмі хоча ён іх прачытаць. А тая жонка як не крыкне: «Навошта яны табе?! Толькі страта грошай!» Той паціху адказаў: «А навошта табе столькі каўбасы?» ды збянтэжана і пакорліва аднёс газеты на ранейшае месца. Не магу сабе ўявіць, што тая жанчына дазволіла б мужу чытаць дома дармовыя кнігі з бібліятэкі. А можа, аднак, ён усё ж такі чытаў бы, калі б у вёсцы быў бібліятэчны пункт?..

Штогод у сакавіку Гмінная рада атрымлівае інфармацыю пра выкананне мінулагодніх задач па культурнай дзейнасці Гміннага асяродка культуры і Гміннай публічнай бібліятэкі. Паводле пісьмовай інфармацыі з Гміннай управы, бібліятэка атрымала з гміннага бюджэту датацыю вартасцю за 77 тысяч злотаў (а паводле пісьмовай інфармацыі з бібліятэкі было гэта 90 тысяч злотаў). Фінансаванне бібліятэкі адбываецца з атрыманай датацыі, узбуйненай банкаўскімі адсоткамі. У мінулым годзе бібліятэка атрымала таксама датацыю з Нацыянальнай бібліятэкі вартасцю ў 2 100 зл., якую прызначыла на пакупку кніжак. На пакупку кніжак адведзена амаль шэсць тысяч злотаў. У 2016 годзе затрачана больш за 83 тысячы злотаў (88,7% гадавога плана). Галоўныя затраты расходуюцца на плату (два працаўнікі) і вытворныя ад платы вартасцю звыш 68 тысяч зл.

У канцы 2016 года гмінны кніжны фонд налічваў 12 919 тамоў (для параўнання: у 1999 годзе было амаль 11 тысяч тамоў, з чаго каля трох з паловай тысяч складала дзіцячая літаратура). З бюджэтных сродкаў куплена 167 тамоў, а ў рамках датацыі 117 тамоў (агулам 284 тамы). З дарункаў прыбылі дармовыя 114 тамы ад прыватных і публічных асоб і ўстаноў. Агулам у бібліятэцы 2 617 дараваных тамоў. Кніжны фонд у Орлі складаюць 5 033 тамы мастацкай літаратуры для дарослых, 4 757 тамоў дзіцячай літаратуры і 3 132 тамы іншых.

У арлянскай бібліятэцы ў 1999 годзе былі зарэгістраваны 174 чытачы, у тым ліку 112 школьнікаў (у 1998 годзе ў гміне пражывала 3 967 асоб), у 2002 годзе — 184 чытачы (3 744 душ), а ў 2016 годзе было зарэгістравана 238 чытачоў, калі, парадаксальна, у гміне пражывала 2 918 чалавек. Па гэтым відаць, што нягледзячы на спад ліку насельніцтва, лік чытачоў узбуйніўся. Мне здаецца, што лік чытачоў не цалкам верагодны. У бібліятэчнай інфармацыі для радных не быў абнародаваны лік чытачоў. Тут хачу заўважыць, што складана мне было даведацца ў бібліятэцы пра гэты лік.

У гміннай бібліятэцы зараз шэсць камп'ютараў (пасля закрыцця інтэрнэт-кафэ ў пажарным дэпо частка камп'ютараў трапіла ў ГАК, частка ў бібліятэку), якімі карыстаюцца чытачы. Дзякуючы атрыманню дадатковых камп'ютараў палепшалі ўмовы дзейнасці бібліятэчных груп зацікаўленняў (англійская мова і праграмаванне).

Арлянская бібліятэка падае інфармацыю пра вучэбныя патрэбы: Развіццё новай мультымедыйнай тэхнікі вядзе да спаду чытальніцтва, таму бібліятэка намагаецца ўплываць на чытальніцкую культуру. У гэтым плане важнае прышчэпліванне прывычкі сягаць па кніжку як форму прыемнага і карыснага каратання свабоднага часу ды паказанне, якую вялікую ролю кніжка адыгрывае надалей у працэсе вучобы і ў асабістым жыцці. Вельмі каштоўная падрыхтоўка ў галіне анімацыі культуры ды рост лічбавых кампетэнцый бібліятэкараў. Летась, пасля абучэння нашага працаўніка ў Падляшскай кніжніцы, завязалася Бібліятэчнае навуковае кола, якое шматграння пашырае свае веды. І надалей патрабуецца абучэнне бібліятэкараў.

Міхал МІНЦЭВІЧ

# Сакольская Ноч музеяў

**20 мая прайшоў чарговы выпуск Ночы музеяў — міжнароднага, вельмі культурнага мерапрыемства. Паважаныя музеі, галерэі і іншыя культурныя ўстановы не зачыняліся тады да позніх гадзін ночы. Сродкі масавай інфармацыі паведамлялі, што шмат людзей пакарысталася магчымасцю бясплатнага ўваходу і ўдзелу ў падрыхтаваных на гэты вечар культурных атракцыёнах.**

Асаблівым быў ён таксама для дзяцей з калектыву «Заранка» з Крынак. Іх зноў запрасілі ў Музей Сакольскай зямлі. Нашы дзеткі адчулі сябе цэнтрам сусвету, таму што былі адзінымі там прысутнымі ў сваёй узроставай катэгорыі. Нельга сказаць, што і дарослых прыйшло шмат.

Працаўніцы музея Оля Плюта і Эдыта Глова вельмі стараюцца, каб прыцягнуць да сябе сакальчан. Іх прапановы заўсёды змястоўныя і на высокім узроўні. Праблема толькі з прывычкай народа карыстацца такой магчымасцю самаразвіцця.

— Трэба пачынаць з малога, — тлумачыць спадарыня Плюта. — Мае дзеткі выдатна гуляюць нават на выстаўках дзевятнаццацівечнага жывапісу.

Дзякуючы спадарыні Плюце ў «Заранкі» паявіліся ўсе шанцы стаць культурнай элітай цэлага Сакольскага павету.

Пачалося з майстар-класаў, прысвечаных сакральнай архітэктуры. Спадарыня Эдыта падрыхтавала шмат цікавых матэрыялаў, у тым ліку архіўныя здымкі сакольскага касцёла святога Антонія. У пачатках XX стагоддзя яго разбудавалі, ствараючы адзіны па сёння ў нашым ваяводстве пяцінефавы касцёл.





Толькі некаторыя ўдзельнікі майстар-класа пабывалі ў сваім кароткім яшчэ жыцці ў царкве ці мячэці. Дзякуючы мультымедыйнай тэхніцы зазірнулі ў прыгожа адноўлены інтэр'ер царквы ў Харошчы а таксама ў мячэць у Багоніках. Даведаліся пра сімвалы царкоўных купалаў, а таксама пра архітэктурныя сувязі паміж праваслаўем і мусульманствам.

Бачылі таксама здымкі прыгожай, драўлянай бажніцы ў Сухаволі і цаглянай у Сакольцы. Усё-такі ніводная мясціна Сакольскага павета не перамагла Крынак па іх колькасці. Бажніц у нас было пяць.

Пасля дзеткі прынялі ўдзел у вернісажы сакольскіх мастакоў. Пабачылі выявы родных касцёлаў і цэркваў, якія выйшлі з-пад пэндзля м.ін. майстра непрафесіянальнага мастацтва Крыштафа Генюша і Віталіса Сарасека, званага сакольскім Брэйгелем.

На канец адбыўся канцэрт «Заранкі», пры тым пры поўнай зале. Напаўнялася яна цягам канцэрта. Людзей проста вабілі гукі быццам чужыя, але дзесьці глыбока свае. Рэпертуар, як заўсёды народны, запісаны быў у вёсках нашага павета. Публіка расхвалялася. Гэта самы лепшы штуршок дзеткам да працягу працы ў калектыве. Карыстаючыся прысутнасцю такой колькасці заслуханых наведвальнікаў музея, я падзякавала бацькам, якія не супраціўляюцца, каб іх дзеткі займаліся менавіта такой творчасцю.

Старэйшых наведвальнікаў Ночы музеяў чакаў яшчэ адзін сюрпрыз — доўгая экскурсія па святынях Сакольскага павета.

Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН



# XX
## Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы

**Рэдакцыя „Нівы" і Беларускі саюз Рэспублікі Польшча аб'яўляюць XX Агульнапольскі конкурс беларускай паэзіі і прозы. У конкурсе будуць разглядацца працы грамадзян Польшчы на беларускай мове.**

**ПРЫНЦЫПЫ ЎДЗЕЛЬНІЦТВА**

**1.** Конкурс праводзіцца ў дзвюх узроставых групах:

— I група: дзеці і моладзь пачатковых школ і гімназій,

— II група: астатнія ўдзельнікі (выключна аўтары, якія не з'яўляюцца членамі літаратурных творчых саюзаў).

**2.** У рамках груп конкурс праводзіцца ў дзвюх катэгорыях: паэзіі і прозы.

**3.** Конкурсныя працы, набраныя на камп'ютары або разборлівы рукапіс у двух экземплярах (паэтычныя творы — 3-5 вершаў, іншыя літаратурныя формы — аб'ёмам да 22 старонак стандартнага машынапісу) трэба падпісаць крыптанімам, пазначыць нумарам узроставай групы і паслаць на адрас: Redakcja „Niwy", ul. Zamenhofa 27, 15-959 Białystok 2, skr. poczt. 84 з прыпіскай на канверце: XX Ogólnopolski Konkurs Poezji i Prozy Białoruskiej.

**4.** Прозвішча, імя і дакладны адрас аўтара дасланых конкурсных прац трэба памясціць у асобным заклееным канверце, падпісаным звонку такім нумарам групы і крыптанімам, як і конкурсныя працы.

**5.** На конкурс трэба дасылаць творы, якія дагэтуль нідзе не друкаваліся і не ўзнагароджваліся на іншых конкурсах.

**6.** Арганізатары не вяртаюць дасланых твораў.

**ТЭРМІНЫ**

**1.** Тэрмін дасылання да 31 кастрычніка 2017 г. (вырашае дата паштовага штампа).

**2.** Вынікі конкурсу будуць аб'яўлены ў лістападзе 2017 г.

**3.** Уручэнне ўзнагарод адбудзецца на адмысловай сустрэчы. Аб тэрміне мерапрыемства лаўрэаты і астатнія ўдзельнікі конкурсу будуць паінфармаваны і запрошаны прыняць у ім удзел.

Конкурс праводзіцца дзякуючы фінансавай падтрымцы Міністра ўнутраных спраў і адміністрацыі.

зорка
для дзяцей і моладзі



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

# Вучыся і будзь смелым!



Яўген Вапа і Андрэй Сцепанюк з гімназістамі



Паэтэса Зоя Сачко і гімназісты

Гэта не так, што сучасны вучань без амбіцыі, што нічога яго не цікавіць, што ўсе яго мары зводзяцца да таго, каб здабыць прыстойную адукацыю, зарабляць вялікія грошы і спакойна жыць у доме, абведзеным вялікім плотам.

Як не цікава, узоры якаснага, пазбаўленага нуды жыцця знаходзім на месцы. І яны моцна прагучалі ў час «Свята школы», якое 26 мая г.г. наладзіла бельская «тройка».

У ходзе святкавання былі прадстаўлены разнавідныя прапановы, так каб кожны знайшоў нешта для сябе.

— Пачалі мы з малебна за вучняў, настаўнікаў і тых, што заслужыліся для добрага імя школы, — кажа дырэктар Барбара Скепка.

Як не цікава, у цэнтры святкавання апынуўся заснавальнік школы і першы яе дырэктар Яраслаў Кастыцэвіч. Памяці гэтага выдатнага беларуса і бяльшчаніна прысвечаны быў бліскучы спектакль «Добры дзень, Яраслаў Васільевіч». У спектаклі, пад кірункам акцёркі Іаанны Троц, выступілі гімназісты. Раней, разам з настаўніцай Валянцінай Бабулевіч, яны збіралі інфармацыі пра Кастыцэвіча, ды частку іх занеслі ў надта змястоўны і каларытны сцэнарый. Яраслаў Кастыцэвіч меў славу суровага настаўніка, а ў спектаклі ён падказвае сваім вучням годна і прыгожа жыць разам з людзьмі. Кожны, хто пабачыць пастаноўку, без лішніх слоў і паясненняў зразумее, у чым заключаецца веліч патрона бельскай «тройкі».

Знаёмства з асобай патрона адбывалася на розных узроўнях. Наймалодшыя рашалі віктарыны, малявалі і складалі вершы пра школу і яе духовага патрона. Не магло адбыцца і без песень ды спартыўных мерапрыемстваў як гонкі, бегі, працягванне троса. Для гмінасістаў наладзілі таксама сустрэчы з вядомай беларускай акцёркай Таццянай Мархель, з выдатнымі прадстаўнікамі беларускай меншасці — галоўным рэдактарам «Нівы» і Радыё Рацыя, старшынёй Беларускага саюза ў РП Яўгенам Вапам і Андрэем Сцепанюком, дырэктарам бельскага белліцэя ды знакамітым паэтам, а таксама надта камерную літаратурную сустрэчу з паэтэсай Зояй Сачко.



Спектакль «Добры дзень Яраслаў Васільевіч»

Спадарыня Сачко, пакуль не выйшла на пенсію, трыццаць гадоў працавала ў бельскай «тройцы». Як аказалася, гэта была яе першая паэтычная сустрэча з вучнямі «тройкі». Хоць чытанні адбываліся на калідоры, гімназісты ўважліва прыслухоўваліся вершам на падляшскай гаворцы. Аўтарка звярнулася да гэтай прыгожай і ветлівай аўдыторыі, каб памятала пра свае карані і наш вясковы свет. Быццам у адказ трэцякласнік Максім Фіёнік зачытаў два падляшскія вершы Зоі Сачко. Аказалася, што амаль усе вучні яшчэ разумелі мову продкаў.

Зоя Сачко дэбютавала ў сёмым класе, на старонках «Зоркі». Першы верш напісала на беларускай літаратурнай мове. Пасля, у дарослым жыцці, рашыла пісаць *па-своему*. У бок падляшскай мовы падштурхнуў яе каўказскі паэт Расул Гамзатаў, які захапіў вобразамі роднай вёскі. Выбар не быў просты і лёгкі, паколькі выпала роля першапраходца.

— Я рашыла пісаць па-своему, — кажа паэтэса, — бо так падказвала мне сэрца.

Зараз у творчым працэсе дапамагае ёй дачка Юстына, якая публікуе вершы на фейсбуку. Гэтая форма дазваляе на абмен думкамі з чытачамі.

Для бельскіх гімназістаў гэта быў яшчэ адзін штуршок, каб больш прыслухоўвацца да мовы бацькоў і дзядоў і ў ніякім выпадку не саромецца мовы, не спіхваць яе на абочыну, не адкідаць. Менавіта такія навукі паўтараў сваім вучням Яраслаў Кастыцэвіч. Ён разумеў, што навука павінна суправаджацца грамадскай адвагай ды гаварыў кожнаму вучню: *Будзь смелым*!

**Фота і тэкст Ганны КАНДРАЦЮК**

## УВАГА КОНКУРС! № 23-17

**Яны прыходзяць двойчы ў год**
**Да школьнага двара,**
**Каб адпачыла ад турбот**
**Вучэбных дзетвара.**
**К.......**

**(У. Мацвеенка)**

Разгадайце загадку, адказ дашліце ў „Зорку” да 18 чэрвеня 2017 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 19-17: ноты. Узнагароды, кніжку Міхася Зізюка «Янка, Шмундзік, Бухматка ды іншыя», выйгралі Анна Кендысь з КШ № 1 у Гайнаўцы, Каміля Цілюлька з Бабік, Мая Тапалянская з Нарвы. Віншуем!**

# Музыка — чыстая прыемнасць!



## Гутарка з Адамам АЗЯБЛАМ

**— Часта ў нашай школе іграеш на акардэоне. Ці хочаш у жыцці звязацца з музыкай?**

— У гэтым годзе я часцей выступаю, бо падумаў сабе, што варта пераадолець хваляванне і паказацца сярод людзей. Я рашыў кінуць іграць толькі для сябе. Музыка гэта толькі маё хобі. Думаю, што ў мяне вельмі малы шанц, што ў жыцці стану вялікім музыкантам.

**— Якія Твае любімыя заняткі?**

— Найперш цікавіць мяне музыка і ўсе музычныя навінкі. Я часта ў інтэрнэце знаходжу песні, якія іграюць на акардэоне. Калі штосьці мне спадабаецца, то я стараюся гэтаму навучыцца.

**— Колькі часу іграеш?**

— Іграць на акардэоне я пачаў у пятым класе пачатковай школы, але тады мне вельмі не хацелася вучыцца. Але ўжо год часу я сур'ёзна працую над маёй тэхнікай, вывучыў новыя песні. Галоўнае, я адчуваю прагрэс.

**— Ці ў Тваёй сям'і хтосьці іграе на інструменце?**

— У маёй сям'і многа асоб іграла на акардэоне. Мой дзядзька таксама, і гэта ад яго я пачаў вучыцца.

**— Якія беларускія песні Ты найбольш любіш?**

— Песні калектываў „Зорка" і „Добрыя грайкі". Напрыклад, „Смэрэка" ці „Чараўніца".

**— Ці доўга развучваеш новыя песні?**

— Час навукі аднаой песні залежыць ад таго, ці гэтая песня цяжкая. Калі яна няцяжкая, то мне трэба адзін дзень. Але ёсць і такія песні, якія я развучваў нават два тыдні.

**— Ці ігра на акардэоне цяжкая?**

— Толькі спачатку. Калі ўжо вывучым асновы, усё што адбываецца далей, гэта чыстая прыемнасць.

Гутарыла ***Оля Яроцкая, Гімназія ў Гарадку***

Якуб СЯРОЦКІ
Гімназія свсв. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку

## Радзіма

Зямля радзімая.
Як я цябе люблю!
Ты прыгожая, адзіная.
Тут жывуць
самыя добрыя людзі.
Як я вас люблю!

## Сястры

Гэта самая каханая асоба,
з якой можна гуляць.
Гэта самая важная асоба,
з якой можна
пра ўсё размаўляць.
Як я цябе кахаю, сястра.
Ты напэўна мяне
таксама кахаеш.
Сястра любімая,
будзь заўсёды са мной!

Вікторыя ПАТОНЕЦ
Старое Ляўкова,
Гімназія ў Нараўцы

* * *

Заўсёды май тое на ўвазе,
што ты ніколі не ёсць адзін,
тваё шчасце – маім шчасцем
стаць можа хаця раз.

Кожны момант ёсць важны,
гэтак зрабіць можам мы,
дружба наша не прападзе,
будзем цаніць яе і праз гады.

Расквецім гісторыю Беларусі

## Еўфрасіння Полацкая (1104-1173)

**Еўфрасіння Полацкая** — гістарычная асоба і беларуская святая, якую ўшаноўваюць праваслаўныя, каталікі і грэка-каталікі. Яна — апякунка ўсіх кніжнікаў, навучэнцаў, настаўнікаў і асветнікаў. Гэта таксама выдатная постаць Сярэднявечча. Нарадзілася ў сям'і полацкага князя. Насуперак волі бацькоў, замест запраектаванага наперад дынастычнага шлюбу, выбрала манастыр. У тыя часы манастыр быў цэнтрам грамадскага жыцця і асветы. Еўфрасіння перапісвала святыя кнігі, заснавала школу для дзяўчат, з якімі разам клапаціліся пра адукацыю беларусаў. Яе аўтарытэт і шчырая набожнасць прыдала кніжнай справе важнасць. Нашы продкі пачалі лічыць адукацыю і пісьмовае слова вельмі важнымі і нават святымі.

Ёсць меркаванні гісторыкаў, што на пэўны час Еўфрасіння брала кіраванне Полацкай дзяржавы на сябе.




На яе заказ ювелір Лазар Богша зрабіў легендарны крыж, сапраўдную рэліквію беларускага народа. Ад яго пайшоў назоў і сімвал «еўфрасіннеўскага крыжа», якім часта карыстаюцца беларусы ў эміграцыі.

Сёння для вас асаблівая задача — пастарайцеся размаляваць крыж, не заглядваючы ў інтэрнэт.

**(гак)**

## Польска-беларуская крыжаванка № 23-17

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 19-17:**

Замак, рака, блакіт, маг, агарод, параход, порт, ткаха, сто, яслі, абдымкі. Зуб, пошта, ар, карта, кніга, тахта, рок, мода, клад, шалі.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Дам'ян Карнілюк, Вікторыя Гаць, Міхал Вардэцкі, Магдалена Якубюк** з КШ з ДНБМ № 3 у Бельску-Падляшскім, **Марцін Кузьма, Якуб Анішчук** з Нараўкі, **Аляксандра Аніськевіч** з КШ № 1 у Гайнаўцы, **Каміля Цілюлька** з Бабік, **Аляксандра Куптэль, Зузанна Мішчук** з Арэшкава. Віншуем!

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | Korona | | Mat / Samochód | | | |
| | Most | Mit | | Noc | | | Malec | |
| | Brawo | Analiza / Gram | | | | | | |
| | Pieniądze | | | | | | Umywalka | Ara |
| Uroczysko | | | | | | | | |
| | | | | | | | | |
| Dźwig / Amator | | | | | | | | |




## Сумная рэчаіснасць

*Апусцелі нашы вёскі.*
*Густа населенымі*
*сталі гарады.*
*З гарадоў моладзь*
*за граніцу выязджае*
*ў пошуках лепшага жыцця.*
*Не ўсім, аднак, шанцуе.*
*Многія трацяць блізкіх,*
*здароўе і гінуць на чужыне.*
*Мала добрага пачуеш.*
*Кожны дзень забойствы,*
*гвалты, выпадкі і замахі.*
*Калі кончыцца гэта?*
*Калі вернецца спакойнае жыццё?*

## Кар'ера і сям'я

*Кар'ера і сям'я не пара.*
*Павышэнне ў марачнай фірме*
*кар'ерыстам — верх мар.*
*Лічацца грошы і праца.*
*Сям'я — непатрэбная пачка*
*розных турбот.*
*Так мінаюць гады.*
*Кар'ерысты застаюцца адны.*
*Нікому непатрэбныя яны.*
*Толькі па іх багацце*
*працягваюць рукі розныя махляры.*

## Ненармальнасць

*Што цяпер дзеецца на свеце?!.*
*Мала хто хоча мець дзяцей.*
*Катоў і сабак гадуюць.*
*Як дзяцей іх трактуюць.*
*Да цырульнікаў і краўцоў водзяць.*
*Перажываюць іх хваробы і смерць.*
*Ім запісваюць сваю маёмасць.*
*Ставяць вышэй за людзей.*
*Так і род людскі звядзецца.*
*Праз сто гадоў Зямля стане*
*планетай сабак і катоў.*

## Каханне

*Шмат вершаў аб каханні*
*напісалі паэты.*
*Шмат песень праспявалі барды.*
*Многім людзям знішчыла жыццё.*
*Ад вякоў яно існуе і не гіне.*
*Сапраўднае каханне не прамінае.*
*Заўсёды ўсё выбачае.*
*Усе прагнуць яго як вады,*
*кіслароду і яды.*



***Ірэна ЛУКША***
*Гайнаўка*

## Лясныя прыгажуні

*Аднойчы я ішла дарогай.*
*Па абочынах кусты і высокая трава.*
*Раптам шорах я пачула,*
*быццам хтосьці бег.*
*На шашу выбеглі чатыры сарны.*
*Вельмі стройныя звяры.*
*Наймалодшая з іх быццам*
*танцорка падскочыла і*
*моцна тупнула ў асфальт.*
*Ажно іскры паляцелі з-пад капыт.*
*Сарны перабеглі дарогу і схаваліся*
*ў гушчары кустоў і травы.*



***Ганна САДОЎСКАЯ***
*Валілы-Двор,*
*Гарадоцкая гміна*

## Мой маленькі след

Я хачу пакінуць тут, на зямлі, мой маленькі след. Магчыма, калі-небудзь хтосьці заўважыць сярод старых дат, што былі, што я напісала, што ў шуфляду складала — маёй думкі кампазіцыі. Як выдатна быць паэтам! Скласці са слоў няхай невялікі верш. Улавіць штосьці такое з былога лета, з-за далёкіх палеткаў, з-за каменных муроў, у павеве гукаў музыкі нябачнага музыканта. Душа паэта зіхоткая як багатая парча. У шторм яна нават у цёмных аблоках як украпінкі золата. Паэт малюе карціну не пэндзлем, а фарбамі душы.

І я б хацела стварыць арыгінальнае, непадробнае і непадкупнае. І каб яшчэ мяне пачуў той, што ловіць свет на маіх хвалях.

## Мая любоў

*Мая любоў прыйшла вясною,*
*тады першы раз спаткаліся мы з табою.*
*Ты ўжо даўно мяне любіў,*
*маю фатаграфію да сэрца туліў.*
*Я не знала і не сніла,*
*што будзе гэта навекі наша міласць.*
*Прыйшоў такі дзень,*
*звычайны дзень будні,*
*мы з табою стаялі пры студні.*
*Дзядзька з цёткай гаварылі,*
*каб мы з табою пажаніліся*
*і каб доўга не чакалі,*
*нашым бацькам усё сказалі.*
*«Маму, тату,*
*мы маладыя, небагаты.*
*У нас ёсць каханне.*
*Едзем у Гарадок на запісанне!»*
*Месяц шлюбу чакалі,*
*у гарадоцкай царкве нас вянчалі.*
*Перад Богам і людзьмі*
*мы вечную любоў абяцалі.*
*У нас цяпер тры дзіцяткі*
*і чатыры ўнучаняткі,*
*будзе паўнейшая хата —*
*падкіне Бог і пятае!*

## Чалавек

*Не разлічвайце на збан, поўны золата.*
*Чалавек гэта крохкая істота.*
*Нават золата і срэбра прападзе,*
*чалавеку ж моцы іншы дадае.*
*Жыццё чалавека паважай,*
*Чалавека далікатнага ўшануй,*
*яго душу светлую пашкадуй.*



***Люба ХАРКЕВІЧ***
*Беласток*

## Адна

Прайшло жыццё.

Цяпер без мэт, мар і імкненняў іду ў нікуды. У жыцці пустэча. Думаю пра ўсё, што прамінула, што было добрае, радаснае і тужлівае.

Сярод глухіх сцен я адна.

Старасць.

Часта размаўляю сама з сабою і клічу Міхася — унука, з якім правяла я гады яго маленства. Сумую і плачу, бо яго не бачу.

Я так хацела б, як калісь, пагаварыць, прытуліць і шчыра пацалаваць. Але гэта немагчыма. Не дазваляе на гэта ягоная мама. Як моцна баліць сэрца!

Тым, каму служыла, стала я непатрэбнай і нямілай.

Толькі жаль і горыч сціскаюць за горла. Плачу, але не хапае ўжо слёз. Можна плакаць, скавытаць, але ніхто не пачуе і не схоча зразумець.

Дарэмна. Лёсу не адменіш.

Бывае, збіраюся з сіламі і тлумачу сабе: падымайся, бабуля, ідзі ўперад, будзь такая моцная, кемлівая і спраўная, як калісь!

Гэта надоўга не памагае. Зноў пакідаюць мяне сілы і агортваюць кашмарныя думкі.

Так баліць адзінота.

# Францішак Берніковіч. Успаміны і запісы (3)

## Мы — беларусы

У пачатку сакавіка 1944 г. атрымаў я ад камандзіра аздараўленчы водпуск, хоць добра ведаў, што ў адзіночку дастацца дамоў у тыя вельмі неспакойныя дні ў нашай Беларусі было складана. Яшчэ будучы ў Вільні, паявілася вестка, што наш патрыёт, вязень савецкіх лагераў, загінуў ад „нязнаных" спраўцаў. „Нязнанымі" віноўнікамі былі АКаўцы. Быў застрэлены ў ложку. Забілі яго за тое, што быў беларусам, патрыётам роднага краю — Беларусі. У такіх умовах я меў дастацца ў свой родны дом, да сваіх родных бацькоў, братоў і сясцёр.

Ад Глыбокага да сваіх родных у Варанцы амаль 20 км. Усё ж такі я ў водпуск паехаў. Дастаўся з Ліды цягнікам у Глыбокае. Разведаў сітуацыю. Са сваім камандзірам роты Орсічам узгадніў, што ён дасць звяз каля 33 чалавек у поўным узбраенні. Мае родныя ўсё аб гэтым ведалі. Дзякуючы цёткам Вінцулі і Мароці, добра падрыхтавалі прыём. Наш маршрут пачаўся з Папшычаў — там мясціўся звяз, які я меў атрымаць у дарогу. Праз Бервякі, Сухарукава, Зялезькі мы перамяшчаліся ў Варанцы.

Яшчэ раз вёскі Глыбоччыны ўбачылі беларускіх жаўнераў не ў адзіночку, а цэлай групай. Прайшоўшы вёску Варанцы, павярнулі на наш хутар. Слёзы пакаціліся ў мяне, калі ногі мае апынуліся на сваім хутары. Падыходзячы да свайго дому, каля акон быў ужо чутны голас гаворкі сабраўшыхся многіх дзяўчат, з якімі канчаў я беларускую школу — Манька, Фэльця і іншыя. Былі і старэйшыя: Пётра — душой адданы мне чалавек, з жонкай Гэляй — палячкай. Прыйшлі ў хату і былыя мае калегі: Віцька і Антоні. Яны выракліся нашай роднай мовы і нацыянальнасці — калегі-рэнегаты.

У хаце каля паўдзённай сцяны былі пастаўлены сталы на 35 чалавек. Чаго там не было: беларускі кумпяк, каўбаса ды бутэлькі гарэлкі. Як ганарыўся мой тата сваім сынам у мундзіры камандзіра з адзнакай ранення і СБМ. Вяртанне ў Папшычы было хутчэйшым, хоць можна было спадзявацца засады, але яе не было. І калі Віцька сказаў: „А магло быць інакш", мой тата гнеўна адказаў: „Мы — беларусы, а вы — палякі". Толькі ў гэтую хвіліну я здагадаўся, аб чым яны загаварылі. Я вымушаны быў лагодзіць сітуацыю: „У нашай Беларусі шмат нацыянальнасцей і ўсім хапае месца".

## На сялянскім сходзе

На сход запрасілі і мяне, калі мы вярнуліся ў Папшычы. Камандзір, звяртаючыся па-нямецку, сказаў: „Шаноўныя жыхары Юркувічаў ды вёскі Папшычы! У нашай акрузе стала неспакойна. Ноччу прыходзяць розныя банды, забіраюць і нішчаць наш дабытак". Натхнёны я сваім аратарствам са школьных часоў, помню добра, што сказаў наступнае: „Браты беларусы, жыхары вёскі Папшычы, будзьма гаспадарамі сваіх вёсак, не пазвольма, каб банды гаспадарылі ў нашых мясцовасцях. Зробім ім так, каб беларусы былі гаспадарамі ў сваёй акрузе. Адгукніцеся на заклік Вашага ўрада, які паўстаў у жніўні 1943 года пад назвай Беларуская Цэнтральная Рада, якая пачынае быць гаспадаром сваёй краіны Беларусі. Яна арганізоўвае ўзброеныя сілы, якія атрымліваюць узбраенне ад немцаў. І пачынаюць як гаспадары наводзіць парадак у сваёй краіне. Падтрымайма гэтую ініцыятыву". Камендант, пасля перакладу латыша, звярнуўся да мяне, каб я зайшоў да яго ў бюро пасля прыезду ў Глыбокае. Я так і зрабіў. На другі дзень завітаў да яго. „Даю Вам важную задачу, — сказаў, — быць замясціцелем камандзіра батальёна ў Параф'янаве, які там будзе ўзнікаць". Сёння або заўтра мы павінны быць у Параф'янаве і прадставіцца спадару Каваленку. Заехаў я ў Параф'янава, калі пачыналася мабілізацыя. Другім замясціцелем камандзіра быў Янка Бука. Ён быў ад культуры, а я ад арганізацыі. Пачалі наплываць людзі ў батальён. Першыя дні былі вельмі цяжкія — не было ў нас свайго



■ Францішак Берніковіч (злева) з сябрам, настаўнікам гімнастыкі

закватаравання, сваёй апраwізацыі ў спажыўчыя рэчы і ва ўзбраенне. Дзіва было, калі з'яўляліся людзі — пераважна жыхары маёнткаў, якія дабравольна ўступалі ў БКА. Былі аднак і такія, якія стараліся шкодзіць справе, але гэта былі адзінкі. Помню мае першыя заняткі з муштры, з тэрміналогіяй „Зважай!", „Вольна!" і г.д. На жаль, не быў я доўга. Мусіў апынуцца ў штрафной роце. Польская партызанка, якая была ў нашым доме, пасля майго візіту дала пісульку, якую бацька павінен быў занесці ў СД. У ёй было напісана: „Вяртайся ў польскую партызанку, перастань служыць беларусам". Агарнула мяне злосць: як я магу пакідаць свае родныя ўзброеныя сілы і ісці служыць чужынцам, насіць чужынскі мундзір. А дзе гонар беларуса? І так мяне скіравалі ў трэцюю штрафную роту ў вёску каля Мінска. Тут я займаўся муштрай усёй роты. Хоць камандзірам роты быў немец Дзітрых, было так, што адзін другога не любілі. Ён лічыўся камандзірам, а я ўсё рабіў. Быў гэта перыяд беларуска-нямецкага канфлікту. Відаць, камандзір батальёна добра ведаў характар Дзітрыха, бо ў апошніх днях чэрвеня прыслаў мне звальненне з роты. Аднак быў гэта такі час, што рашыцца пакінуць сваіх хлопцаў абазначала пайсці ў нязнанае. А так усё рашылася самацёкам.

## На захад

Першы дзень ліпеня — вакол нейкая дзіўная сітуацыя. На дарогах каля нашай мясцовасці імкнуцца на матацыклах і самаходах запыленыя немцы. Было па абедзе, калі наша рота атрымала загад пакаваць у ранцы ўсе патрэбныя рэчы. І дзіўна — у гэтую хвіліну прыходзіць Дзітрых, трымаючы ў руках паперку, і кажа: „Цябе камандзір штурмавога батальёна звальняе з батальёна. Цяпер рашай сам, ці едзеш разам з намі". А быў ужо загад грузіцца, пададзены былі самаходы. Не пакінуў я сваіх хлопцаў. Разам памясціўся ў машыну і тут жа самаходы набралі кірунак Менска. Я памясціўся ў першым звязе і самаходы ад'ехалі ў напрамку Менска. Там на вакзале з самаходаў перасеmenліся мы ў таварныя вагоны і гайда — на захад. Едучы вуліцамі Менска, я заўважыў дэкарацыі горада. Толькі на вакзале даведаліся, што 27 чэрвеня ў Менску адбыўся ІІ Усебеларускі кангрэс. Прыбыло на яго 1039 дэлегатаў з усяе этнаграфічнае Беларусі. Толькі цяпер мы зразумелі, чаму на вуліцах Менска красуюцца бел-чырвона-белыя сцягі. 2 ліпеня наш цягнік крануўся. Куды? Вядома, на захад. Хутка даехалі мы да Маладзечна, а пасля — зноў на захад. 3 ліпеня мы былі ўжо ў Новай Вілейцы. Цягнік затрымаўся пры пероне. Бачым як надыходзяць цягнікі з поўначы. Сустракаем эстонцаў. І — о дзіва! Сустракаем прыгожую дзяўчыну з Магілёва — студэнтку Медыцынскага інстытута. Едзе таксама, вядома, на захад. Сустракаю і афіцэра БКА ў зялёным мундзіры. На каўняры чырвоныя прамавугольнікі з Ярылавым крыжам. Эфектна выглядае. Месцам яго памяшчэння быў Барысаў.

Перад намі наш слаўны горад — Вільня — горад Каліноўскага, Купалы і іншых не менш нацыянальных герояў. За хвіліну пакідаем Новую Вілейку і пераязджаем каля Віленскага вакзала. Цішь. І так пакідаем Вільню і далей едзем на захад. Пераязджаем Коўна. Мяняем кірунак на паўднёва-заходні. Хутка і нямецка-літоўская мяжа. Робім дэзынфекцыю і гайда далей. Кірунак — Ольштын. Бачна высокая культура земляробства. Праехаўшы Ольштын, едзем далей у тым самым кірунку. Праз Ілаву даязджаем у Торунь (Торн) і тут два дні стаім на запасным пуці. А пасля рушылі далей на захад. Пераехалі Познань і скіраваліся на поўдзень. Праехаўшы Чанстахову, затрымаліся ў Сасноўцы. Тут высаджваемся і размяшчаемся на пляцоўцы каля двухпавярховага дома. Жаўнеры атрымалі загад раскласці шатры. Вакол нас была загарада, дзе збіралася насельніцтва горада, каб паслухаць нашы песні і пагаварыць з намі. Гэта не падабалася, відаць, нашаму камандаванню, бо дае загад зноў памясціцца ў вагоны і ехаць далей. Пераязджаем каля Біркенаў і едзем праз Чэхаславакію, а пасля праз Аўстрыю. Праязджаем праз Вену, Грац. Наша дарога праз Аўстрыю канчаецца ў Вілах. За горадам Вілах ужо Італія. У Італіі затрымаліся ў горадзе Удыне, дзе размясціліся ў казармах, якія на пэўны час становяцца беларускімі. Бачым цікавых жыхароў, пазнаем першыя італьянскія словы: „сіньярына", „бона" і г. д. У казармах пачынаецца муштра — гэта занятак для мяне. Наш камандзір Дзітрых уважаў за лепшае папіваць віно і каньячок. Але гэта нядоўга — нас, трэцюю штрафную роту, не прывезлі ў Італію, каб піць віно, толькі выканаць брудную работу.

## Першая баявая задача

Хутка стала вядома, што нашай задачай будзе сарваць блакіраванне кабардзінскага батальёна ў горадзе Белуна. А нашай задачай было выканаць гэта не як ворагі італьянскага народа. Выканаць гэта можна толькі тактыкай Усяслава Чарадзея: знайсціся знянацку ў гэтым месцы нам на поўнач. Высаджваемся на вакзале. З Удыне едзем цягніком блізу Тальмецца. На вакзальнай пляцоўцы робім зборку роты. Я прамаўляю да жаўнераў прыблізна так: „Браты, беларускія жаўнеры, перад вамі вялікая і складаная задача. Выканаем яе, калі захаваем дысцыпліну беларускага жаўнера! Калі ўмела выкарыстаем ваенную тактыку знянацку знаходзіцца ў патрэбным месцы, як нярав рабіў наш батальён. Будзем знаходзіцца на італьянскай тэрыторыі, заселенай італьянцамі, а мы не з'яўляемся іх ворагамі. Таму трэба быць ветлівымі з насельніцтвам, забараняецца ўваходзіць без дазволу ў іх дамы. Шанаваць іх дабытак і не адкрываць агню без загаду".

З вакзала да Тальмецца прайшлі мы пешшу. Тальмецца — прыгожы горад на рацэ Тальямента. Белуна дзесь 120 км ад Тальмецца. Гэтую адлегласць мы павінны прайсці. У сувязі з тым, што сілы адной роты былі надта слабымі, каб выканаць задачу, дададзена нам рота нямецкай пяхоты. Па дарозе ў Белуна трэба было здабыць у палове дарогі мястэчка, назвы якога не помню.

## Цяжкія хвіліны

Мястэчка штурмавала наша рота. На загад „Наперад!" хлопцы кінуліся як ільвы. На працягу пару мінут мястэчка было ў нашых руках — страт не было. Калі мы праходзілі праз мястэчка, гаспадар аднаго дома запрасіў мяне да сябе. Першае яго пытанне: „Вас тэдэско?". Мы ўжо добра ведалі і разумелі слова „тэдэско" — немец, немцы. Адказалі: „Ненто тэдэско, мы — беларусы (бянко-руссо)". Ён адказаў: „Белоруссо боно". Пасля аваладання мястэчкам, дарога на захад усё цясней і цясней прылягала да даліны ракі Тальямента, якая плыве 50 метраў ніжэй дарогі, а сцяна абрыву падае проста ў люстра вады. А дарога вілася каля высокага абрыву. У выніку абстрэлу дарогі трэба было неяк апусціцца ў абрыў. Гэта нам неяк удалося. Знайшлі мы малую пляцоўку, каб паставіць мінамёт. Трэба было аваладаць адрэзкам дарогі, якая замыкалася скальным выступам, што прымыкаў да абрыву. Гэты адрэзак быў абстрэльваны кулямётным агнём. Але аваладанне скальнага выступу дазваляла закрыць кулямётны агонь. Але як прайсці 50 метраў дарогі? Трэба аваладаць ім інтэнсіўным бегам. Адзін жаўнер быў ранены. У гэты час аказалася, што наш камандзір Дзітрых дзесь выбыў і тады я абняў каманду роты. Даў загад сяржанту Караткевічу, камандзіру кулямётнай групы адкрыць агонь з кулямёта. Адзін выстрал і — о, дзіва! — кулямётны агонь спыніўся. Тады першая дружына роты скачком, а далей абстрэленым адрэзкам дайшла за скальны выступ. І дружына зноў апынулася над другой ракой П'яве. Гэтая рака была больш грозная ад Тальямента. Яе плынь была вельмі бурлівая, але на шчасце быў вельмі высокі мост, дзесь 200 метраў над люстрам вады. Астатняя часць роты была ўжо каля скальнага выступу. Здзівіла іх тое, што не было абстрэлу, а жаўнеры паўзком пераадольвалі мост. Аказалася, што нашы жаўнеры мелі боязь прасторы, а перш за ўсё — вышыні. Як там было, але мост быў пераадолены.

На другім канцы моста можна было бачыць мястэчка Белуна. Знаходзілася яно на высокім узгорку. Дастацца да яго можна было дарогай, якая ішла берагам ракі П'яве — каля 2 км. Вось і апынуліся мы знянацку, дзе трэба. Пры мосце быў рэстаран, выкуты ў скале. Камандзір батальёна закупіў нам бакалы віна, пасля чаго мы крануліся ў мястэчка Белуна. Дарога ішла берагам ракі П'яве. Дзіўная гэта была дарога, калі мы ішлі над воблакамі, якія засланялі ўсю даліну П'яве. Засланялі яны і мястэчка. Дзесь каля гадзіны 2-й пасля абеду апынуліся мы на пляцы Белуна. Такім чынам блакада была прарваная. Кабардзінцы мелі падацца ў другое месца. Гаспадарамі мястэчка былі мы. На пляцы зрабіў я зборку роты. Камандзір батальёна падзякаваў за выкананне задачы. Дэкляраваў даць нам водпуск за наш труд. Да мяне падышоў адзін мужчына і запрасіў у свой дом. У доме стаяў столік, а каля сцяны — лаўка для сядзення. Хутка гаспадар выйшаў, а засталася дзяўчына, якая сядзела на лаўцы. Калі я хадзіў па пакоі, дзяўчына неяк адсунулася і прасіла мяне сесці, але зрабіла гэтулькі месца, што як сеў, дакрануўся да яе цела. Гаспадар прынёс бутэльку віна і запрасіў мяне і дачку да століка.

Перад намі была задача пераадолець Альпійскі перавал на вышыні больш за 3 тысячы метраў. Ад перавалу мы спускаліся ўніз, месцамі было небяспечна. Мы павінны былі дайсці да Карціна-д'Ампецца, а далей цягніком да Удыне.

## У Порта-Роса

Наш побыт ва Удыне гэтым разам быў кароткі. Аднаго дня на пляцоўку каля казармы пастаўлены былі тры самаходы. Наша рота мела памясціцца ў самаходах. І тут пазналі мы новых камандзіраў звязу. Камандзірам І звяза стаў Унраў, ІІ звяза — Міллер, заступнікам — Янка Філістовіч, ІІІ звяз — камандзір Шульц, заступнікам — фельдфебель Пераногін.

Самаходы з Удыне праз Трыест і Пірана дабраліся да Порта-Роса — прыгожага курортнага месца. У Порта-Роса нас памясцілі звязамі ў трох блоках — наш звяз у блоку недалёка берага мора. Была нам выгодна купацца — вада вельмі цёплая, насычаная соллю і таму плаваць было вельмі лёгка.

(працяг будзе)

Францішак БЕРНІКОВІЧ

# Засталіся адно ўспаміны (6)

На другі дзень пасля Казанскай арганізавалі мы ранішнік для школьнікаў, вечарам — два сеансы для дарослых. На абодвух сеансах быў камплект гледачоў. З таго часу запамятаў я Ніну Грыгарук, актыўнага важака мясцовых жанчын. Гэта яна, як не памыляюся, у шасцідзясятыя гады ўзначальвала ў Курашаве Гурток вясковых гаспадынь. Здаецца, што і пісала наконт кінаперасоўкі пісьмо ў ВПК. Янка Паўлючук быў пастаянным госцем. Не паспелі мы заехаць пад школу, а ён зараз жа заходзіў прывітацца з намі. Штодзень працаваў ён трактарыстам, любіў чытаць кніжкі, асабліва захапляўся ваеннай літаратурай. Памятаю яго расказ аб „Жывых і мёртвых" Канстанціна Сіманава. Апрача таго Янка любіў чытаць вершы. Запамяталася мне ягоная фраза з сатырычнага верша пра Цыранкевіча: *„Bo nasz premier łysą pałą, wnet oświetli Polskę całą"*. З Янам і Марысяй Масайламі я проста парадніўся. Абое займаліся гаспадаркай. Шыкарна абсталяваны дом, задбаная сядзіба. А самае важнае гэта сардэчнасць і ветлівасць да людзей. Сужонства Масайлаў у сяле карысталася належным аўтарытэтам. З курашаўскіх настаўнікаў запамятаў я Анатоля Шведа, загадчыка школы, настаўніц Ніну Анішчук, Валю Вайкоўскую з-пад Нарвы, Ірэну Васілюк з Рэпіскаў і Тасю, што вучыла матэматыцы. З кавалеркай пазнаёміўся я на вяселлі Васі Матвеюка. А было гэта так. У пачатках траўня 1963 года заехалі мы з кінаперасоўкай. Неўзабаве ў машыну зайшлі некалькі хлопцаў, пачаставалі нас віном. Завязалася размова. Пры чарговым тосце адзін хлапец, падняўшы чарку, загаварыў: „А цяпер вып'ем за тое, каб у мяне на вяселлі загулялі". І тут жа афіцыйна прыбавіў:

— Пан кіраўнік, спатыкаемся ў нядзелю... Будзеце першым госцем.

— Чаму я? — пытаю.

— Бо мне спадабаліся, — з жартоўнай усмешкай адказаў жаніх.

З Курашава па маршруце мы пераязджалі пад Белавежу ў сяло Буды, затым Тэрамiскі. Перагаварыўшыся з шафёрам і кінаапаратарам, рашыўся я застацца. Касу перадаў шафёру. Так практыкавалася не толькі ў нашай брыгадзе, але і ў іншых. Шафёр, калі не пільнаваў агрэгата, выконваў абавязкі білецёра. За кожны дзень супрацоўніцтва яму плацілі 5 зл. Гэтым разам зрабілі мне калегі „мядзведжую прыслугу".

— Гуляй... Два дні самі абслужым...

Вяселле Васі Матвеюка запісалася ў маёй памяці па сённяшні дзень. Памятаю застолле ў садочку пад квяцістымі яблынямі і грушамі. Хтосьці ўключыў радыёпрыёмнік. Перадавалі трансляцыю з адкрыцця Міжнароднай велагонкі. Было, здаецца, 7 або 8 мая...

Пасля вянчання гулялі да раніцы ў маладога. Пры світанні я адправіўся на начлег да Масайлаў. Дзесьці каля восьмай-дзявятай гадзіны ў кухні пачуў я голас хлопцаў:

— А дзе ваш госць...

Адпачывае...

— Дык час яму падымацца. На снеданне забіраем...

У хаце заставаўся дзядуля Павел. Я меў састаўляць яму кампанію. Гаспадыня кінула на развітанне: „Да сена ідзем. Адчувай сябе быццам дома". Але я разам з Васем Нікалаюком, музыкантам Росцікам ды іншымі „сватамі" падаліся да маладога на снеданне. Пачастунак з гасцямі ў Васі Матвеюка доўжыўся да пасляабедзеннага часу. Затым на некалькіх фурманках вясельнікаў маладога, з чырвоным флажком на багатым куфры з падарункамі і курачкай, перавязанай чырвонай стужкай, пад гукі Росцікавага гармоніка падаліся мы з пасагам у Рэпіска.

(працяг будзе)

■ Кіроўца кінаперасоўкі Уладак Скепка (злева) з жыхаром Локніцы, лета 1964-66

Уладзімір СІДАРУК

# http://vetliva.by

Беларускія ўлады нарэшце ўцямілі, што турызм для Беларусі можа быць неблагой крыніцай прыбытку. Таму не так даўно ў Байнэце з'явіўся даволі цікавы сайт, што прадстаўляе турыстычны патэнцыял Беларусі. Ён месціцца па адрасе **https://vetliva**.by і мае тры моўныя версіі, прычым беларускамоўная з'яўляецца першай — пры наведванні сайта адразу адкрываецца менавіта яна. Такія акалічнасці не могуць не цешыць, бо толькі павага да сябе і сваёй мовы можа выклікаць павагу да цябе з боку замежнікаў. Аднак знаёмства з сайтам крыху ахаладжвае радасны настрой.

„Vetliva — новы сэрвіс онлайн-браніравання. Ключавая асаблівасць — арыентацыя выключна на нацыянальны (беларускі) турыстычны прадукт", — сцвярджаюць уладальнікі сайта — рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства „Цэнтркурорт", якое цалкам належыць беларускай дзяржаве.

Галоўная старонка сайта падаецца вельмі прывабнай. Карыстальніку адразу прапануецца мноства варыянтаў адпачынку ў Беларусі. Гэта могуць быць як разнастайныя санаторыі і базы адпачынку, так і наведванне культурных мерапрыемстваў. Уверсе цэлага выяўлення знаходзіцца выйсці на рубрыкі сайта. Там найбольш цікавай падаецца падрубрыка „Пра Беларусь", што знаходзіцца ў рубрыцы „Беларусь", бо змяшчае, мякка кажучы, спрэчную інфармацыю. „Беларускаму насельніцтву характэрны такія рысы, як талерантнасць і гасціннасць", — сцвярджаюць уладальнікі сайта. Калі адносна гасціннасці кантраверсій асаблівых не ўзнікае, то наконт талерантнасці паўстаюць пытанні. Так, хочацца запытаць дзяржаўных турыстычных спецыялістаў, ці можа талерантным быць народ, улады якога з яго ж згоды кідаюць за краты іншадумцаў і разганяюць мірныя акцыі пратэсту, а паняцці „дэмакратыя" і „свабода слова" ад савецкіх часоў незразумелыя для вялікай колькасці беларусаў. Больш таго, многія жыхары Беларусі дагэтуль настальгуюць па савецкіх часах, называючы сябе савецкімі людзьмі. А савецкі чалавек па вызначэнні не мог быць талерантным і цярпімым да іншага пункту гледжання, адрозпага ад „генеральнай лініі".

„Большасць насельніцтва размаўляе на рускай мове, хоць у краіне існуе дзве афіцыйныя мовы. Беларускамоўнае насельніцтва можна сустрэць у Заходняй Беларусі", — пішуць уладальнікі сайта. Па ўсім відаць, яны, седзячы ў Мінску, не часта выбіраліся ва ўсходнебеларускія вёскі, не кажучы пра расійска-беларускае памежжа.

„Самы вялікі адсотак у Беларусі насельніцтва, што вызнае рэлігію Рускай праваслаўнай царквы. У заходніх рэгіёнах краіны пераважае Рымская каталіцкая царква. Акрамя гэтых дзвюх рэлігій у краіне пададзена пратэстанцтва, юдаізм, іслам, індуізм і іншыя канфесіі", — такія сцвярджэнні выклікаюць вялікае здзіўленне і пытанне, ці заглядвалі ў „Цэнтракурорце" ў статыстычныя даныя. Так, у Брэсцкай вобласці, згодна звестак на сайце абласной выканаўчай улады, па колькасці прыходаў каталікі займаюць чацвёртае месца (63), а праваслаўныя — першае (389). На Гродзеншчыне, згодна Вікіпедыі, напрыклад, у 2012 годзе колькасць каталіцкіх абшчын хоць і была найбольшая ў Беларусі (174), але саступала колькасці праваслаўных (194). А такія моўныя абароты як „рэлігія Рускай праваслаўнай царквы" і „ў краіне пададзена пратэстанцтва, юдаізм, іслам, індуізм і іншыя канфесіі" выклікаюць сумненне ў разуменні ўладальнікаў сайта таго, што там напісана.

Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ

## Дата з Календара

Мітрапаліт беларускай аўтакефаліі

# 100 гадоў з дня нараджэння Мікалая (Мацукевіча)

Мітрапаліт Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы Мікалай (свецкае імя Міхал Мацукевіч) нарадзіўся 21 траўня 1917 г. на хутары Суяцін (Новавузенскі павет Самарскай губерні, Расія). Паходзіў з праваслаўнай сям'і беларусаў-бежанцаў. У час Першай сусветнай вайны бацькі — Кандрат і Домна (з роду Дзямковічаў) Мацукевічы выехалі ў бежанства з роднай вёскі Моталь на Берасцейшчыне. У 1921 г. Міхал, пасля смерці маці і сястры, вярнуўся разам з бацькам і двума братамі ў Моталь. У 1932 г. скончыў пачатковую школу. Пазней вучыўся ў Тараканаўскай сельскагаспадарчай школе. Служыў у польскім войску ў Брэсце, удзельнічаў у нямецка-польскай вайне 1939 г., быў паранены. У лістападзе 1939 г. вярнуўся дадому. Вучыўся на настаўніцкіх курсах у Брэсце. Пазней пераехаў у Пінск. Пасля акупацыі Беларусі нямецкімі войскамі працаваў на ўласнай гаспадарцы. У красавіку 1944 г. арыштаваны нямецкімі ўладамі і вывезены ў Германію. Да лютага 1945 г. быў на прымусовых работах, капаў акопы паміж гарадамі Кобленц і Бон. Вызвалены амерыканскімі войскамі.

З сакавіка 1945 г. Мацукевіч жыў у Вялікабрытаніі, дзе працаваў на ферме недалёка ад шатландскага Глазга. Падтрымліваў сувязі з беларускімі перасяленцамі ў Нямеччыне. У 1946 г. у час наведвання сваякоў у беларускім лагеры ў Ватэнштэце пазнаёміўся з беларускім грамадскім дзеячам Міколам Шылам. У 1947 г. удзельнічаў у першым з'ездзе Згуртавання беларусаў у Вялікабрытаніі. Пасля 1949 г. жыў у Лондане, дзе цягам двух гадоў працаваў адміністратарам Беларускага дома.

У жніўні 1951 г. Мацукевіч пераехаў у Канаду. Вучыўся на багаслоўскім факультэце Калегіі св. Андрэя ў горадзе Вініпег. Рукапакладзены ў сан іерэя 6 траўня 1952 г. іерархам Украінскай грэка-праваслаўнай царквы мітрапалітам Іларыёнам. Са жніўня 1954 г. жыў у Таронта, дзе арганізаваў прыход св. Кірылы Тураўскага. Першую літургію адслужыў у кастрычніку 1954 г. Апрача Таронта святарскія абавязкі выконваў у гарадах Садберы, Атава, Манрэаль і іншых. З сярэдзіны 1960-х гг. штомесяц прыязджаў на набажэнствы да беларускіх вернікаў у Дэтройт (ЗША). Адзін з арганізатараў там беларускага праваслаўнага прыхода Святога Духа. У кафедральным саборы св. Кірылы Тураўскага ў Нью-Йорку ў кастрычніку 1966 г. пастрыгся ў манахі і прыняў імя Мікалай. На наступны дзень узведзены архіепіскапам БАПЦ Сергіем у сан ігумена і архімандрыта. У змаганні груповак БАПЦ прыняў бок епіскапа Васіля (Тамашчыка). Рукапакладзены ў сан епіскапа турава-пінскага і таронцкага ў сакавіку 1968 г. у Аўстраліі. Спрыяў выданню царкоўна-рэлігійных кніг „Праваслаўны малітоўнік" (1966) і „Службоўнік" (1980). У траўні 1983 г. на надзвычайным саборы БАПЦ у Кліўлендзе абраны першым іерархам БАПЦ. На трэцім саборы БАПЦ у царкве Жыровіцкай Божай Маці ў Гайленд-Парку (штат Нью-Йорк) абраны паўторна першым іерархам. Канфліктаваў з іншай буйной групоўкай з цэнтрам у Брукліне і пад кіраўніцтвам спачатку Андрэя (Крыта), а затым Ізяслава (Бруцкага). Саборам БАПЦ гэтай групоўкі на Мікалая была накладзена анафема, якую ён прызнаць адмовіўся і аб'явіў пра некананічнасць бруклінскай БАПЦ. У лютым-сакавіку 1992 г. наведаў Беларусь, сустракаўся з мітрапалітам мінскім і слуцкім Філарэтам (Вахрамеевым).

Памёр Мацукевіч 20 чэрвеня 2002 г. у Таронта. Пасля смерці Мікалая большая частка яго царквы перайшла пад кантроль БАПЦ Ізяслава (Бруцкага).

Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ

# Сцёртыя палосы

Зараз надвор'е цяплее з кожным днём. Можна аднаўляць сцёртыя белыя палосы, г. зв. зебры, на асфальтавых маставых вуліц, між іншым, у Гайнаўцы, але дарожныя службы яшчэ не прыступілі да такіх прац. Сцёртыя палосы амаль на кожнай гайнаўскай вуліцы, а ўжо асабліва ў цэнтры горада, між іншым, на вуліцы 3 Мая, Баторыя, Пілсудскага, Арміі Краёвай, Ліпавай, Беластоцкай. Не інакш выглядае справа гарызантальных дарожных знакаў на вуліцах у прыгарадскіх вёсках Дубіны і Навасады.

У пагодлівыя дні палосы на рухлівых вуліцах неабходна памаляваць. Асабліва там, дзе жыхары горада ці вёсак пераходзяць вуліцу з аднаго боку на другі. Найхутчэй сціраюць іх пакрышкамі грузавыя аўтамабілі і аўтобусы перад і за скрыжаваннямі вуліц, калі тармозяць або набіраюць скорасць.

Варта памятаць, што добра бачныя белыя палосы на вуліцах патрэбны для таго, каб было больш бяспечна рухацца па вуліцах. Час і пара тады дарожным службам прыступіць да аднаўлення сцёртых белых палос, асабліва там, дзе яны мала прыкметныя. **(яц)**

# Замаразкі пашкодзілі

Сёлета прадвяшчаецца цяжкі год у сельскай гаспадарцы. Асабліва агароднікі ды садаводы паўднёва-ўсходняй часткі краіны пацярпелі вялікія страты. Прычынай былі травеньскія маразы. У паўднёва-ўсходняй часткі Падляшша, праўда, не было моцнага снегападу, але чатырохградусныя замаразкі пашкодзілі квітнеючым фруктовым дрэвам. У мяне, напрыклад, падмерзлі слівы, вішні і чарэшні. У пачатках траўня дрэўцы цудоўна зацвілі, а зараз суквецце пачарнела, абсыпаецца. Засталіся адно яблыкі і грушы, паколькі пазней пачалі цвісці. Ужо зараз на рынках даражэюць агародніна і фрукты. Які будзе канчатковы вынік сёлетніх «гароднікаў», цяжка прадбачыць. Восень пакажа якія прыйдзецца збіраць плён. **(ус)**

# НАШЫ карэспандэнты

## Памятныя здымкі

У лютым 2005 года я наведаў 86-гадовага Аляксандра Саўчука, жыхара Апакі-Вялікай, які ў час аповеду аб мінулым («З Апакі на вайну», «Ніва» № 9 ад 27.02.2005 г.) перадаў мне два памятныя здымкі. Дзядуля не быў у змозе сказаць, каго здымкі прадстаўляюць і ў якіх гадах былі яны зроблены. Праўдападобна здымкі прадстаўляюць кампанію з Вярховіч (цяпер Камянецкі раён РБ) пад канец трыццатых гадоў XX ст. Майго суразмоўца даўно няма ў жывых. Памятныя здымкі засталіся. Звяртаюся затым да спадарыні Людмілы Дудар з Высокага з просьбай пацікавіцца, калі ласка, справай. Можа хтосьці з Вярховіч або наваколля распазнае сваіх суродзічаў? Буду вельмі ўдзячны за дапамогу. **(ус)**

## Шукаюць паратунку

Віцэ-міністр культуры і народнай спадчыны Яраслаў Сэлін у перадачы «Палітычны салон» III праграмы Польскага радыё так гаварыў наконт сыскання радыётэлевізійнага абанементу: «Новы праект закона ў бліжэйшым часе будзе прад'яўлены для кансультацыі». Не выявіў, аднак, падрабязнасцей новых правілаў, так што пакуль не вядома як абанемент будзе спаганяцца. Заўважыў адно, што змены неабходныя таму, што абанемент плаціць крыху больш чым мільён з ліку некалькіх мільёнаў дамашніх гаспадарак.Тым часам старшыня Рады нацыянальных медыяў Кшыштаф Чабанскі заявіў, што радыётэлевізійны абанемент праўдападобна будуць плаціць не як дагэтуль уладальнікі дамашніх гаспадарак, толькі ўсе падаткаплацельшчыкі PIT, CIT i KRUS. Сцягваннем даніны меў бы заняцца фіскус (казна), а аператары кабельнага і спадарожнікавага тэлебачання вымушаны былі б пастаўляць даныя сваіх кліентаў для Польскай пошты. Супраць такіх вырашэнняў выступаюць аператары прыватнага тэлебачання і Галоўны інспектар аховы персанальных даных.

Міністр культуры і нацыянальнай спадчыны прафесар Пётр Глінскі 9 мая заявіў, што на аснове новага закона, праўдападобна ад пачатку 2018 года, радыётэлевізійны абанемент велічынёю каля шасці злотых будзе спаганяцца разам з падаткам (ад падаткаплацельшчыкаў PIT, CIT i KRUS). Які будзе канчатковы вынік навелізацыі закона аб радыётэлевізійным абанеменце пакажа час. Справай пакуль што займаецца Еўрапейскі галоўны інспектар аховы персанальных даных. **(ус)**

# Прыгожыя прыстрэшкі

Улады Беластока дбаюць пра маставыя гарадскіх вуліц ды пра прыстрэшкі на прыпынках аўтобусаў гарадскога транспарту. Зараз у цэнтры горада, на вуліцах Ліпавай, Варшаўскай, Сянкевіча і Мальмеда ды пры плошчы Яна Паўла II маем самыя новыя прыгожыя ды больш трывалыя прыстрэшкі. Навейшыя прыстрэшкі пабудавалі таксама на шматлікіх вуліцах, між іншым, на Юравецкай, Браніцкага, кард. Вышынскага, Героя ў Монтэ-Касіна, Каліноўскага, кс. Папялушкі, ген. Сікорскага і 42 Палка пяхоты ды на алеі Пілсудскага. Такія прыгожыя прыстрэшкі і на Дайлідах — пры выездзе з горада. Яны папраўляюць выгляд вуліц і горада.

Новыя прыстрэшкі намнога прыгажэйшыя ад папярэдніх такога роду аб'ектаў малой архітэктуры. Гэтак інвеставаць трэба і далей. Гэта добры накірунак. Пад новымі дашкамі прыемней прысесці на лавачцы ды чакаць свайго аўтобуса. Варта дадаць, што на кожным прыпынку вісяць актуальныя расклады язды аўтобусаў. **(яц)**

# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

**1.** структура, узаемнае размяшчэнне і сувязі састаўных частак цэласці = 22 _ 21 _ 20 _ 23 _ 24 _ 25 _;
**2.** старазапаветны прарок, спадарожнік прарока Ільі = 2 _ 28 _ 29 _ 3 _ 4 _ 5 _;
**3.** пузырыстая маса, якая ўтвараецца, напрыклад, на піве = 15 _ 16 _ 13 _ 14 _;
**4.** прозвішча маскоўскага таварыша Лукашэнкі і Парашэнкі = 6 _ 12 _ 11 _ 10 _ 9 _;
**5.** калектыўны орган гмінната самакіравання = 17 _ 18 _ 19 _ 27 _;
**6.** форма тулава ў... Казахстане = 30 _ 31 _ 32 _ 1 _;
**7.** крок = 7 _ 8 _ 26 _.

(ш)

| | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | 1 | 2 | 3 | 4 | 5 |
| | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 | 19 |
| 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 | 26 | 27 |
| | | | 28 | 29 | 30 | 31 | 32 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 20 нумара**
Нацюрморт, крыга, куб, малачай, дзежка, карыта, Гайнаўка, гуляка.

Рашэнне: **Мокры май — будзе жыта як гай**.
Кніжныя ўзнагароды высылаем **Анне Дэм'янюк** з Бельска-Падляшскага і **Лявону Федаруку** з Рыбал.

# 04.06 — 10.06

**(22.03. — 20.04.)** Планеты шыкуюць табе раптоўны скок у кар'еры. Але прыгасі амбіцыі, бо можаш больш страціць, чым прыдбаць. Дзве дэкады будзеш мець мноства творчых інспірацый і цікавых вестак. Не праваронь нагод для сустрэч і далейшых паездак. Ад 6.06. схочацца ў сваёй хаце пачуць дзіцячы смех. Тваё здароўе паволі стабілізуецца.
**(21.04. — 21.05.)** Добра ў фінансах і прафесіі. Ваша пара — блізкая да ідэалу. Нагоды да вельмі добрага заробку. З 6.06. (да 12.06.) магчымае каханне з першага пагляду, неспадзяваныя і мілыя сустрэчы. Дом шырока адкрыты. На працы маеш шанц вырвацца з хвастоў і шыкаваць сабе дарогу да павышэння. Праводзь як найбольш часу на адкрытым паветры.
**(22.05. — 22.06.)** Дзве першыя дэкады свеціць табе сонца. Будзе прагрэс, не зробіш старых памылак. 4-5.06. здабудзеш новых сяброў і саюзнікаў. Але 4-6.06. можа так здарыцца, што нікога не пераканаеш. На працы пакуль трымайся старых сцежак. Кандыцыя ў клетачку, добра што кончацца праблемы са здароўем блізкай табе асобы.
**(23.06. — 23.07.)** Мноства энергіі і новых задум. Маеш шанц паправіць свой рэйтынг на працы і павялічыць свае фінансы. Хаця аж да 20.06. няшмат зробіш без канцэнтрацыі; засяродзься на чымсьці адным. Не адкладвай работ патрабуючых большага высілку на пасля. Не перанапружвайся фізічна. З 6.06. (да 12.06.) можаш паваяваць за чыёсьці сэрца.
**(24.07. — 23.08.)** Не ўсё складзецца па тваёй думцы, але не трáць добрага настрою. На канец справы пойдуць так як хочаш. 4-7.06. будзеш скардзіцца і жаліцца, непатрэбна. Будзеш слабейшы фізічна, але спрытны і кемлівы, і пераможаш працівніка. У пары давер даверам, але лепш трымай руку на пульсе, асабліва 3-7.06. А 4-5.06. Ільвы з другой дэкады: хопіць ужо жыць на «роварную карту»! Не шалей цяпер са спортам, лепш увесь месяц рэлаксуйся, пільнуй таксама свае суставы.
**(24.08. — 23.09.)** Часовыя праблемы мінуць, дык не паддавайся, нават калі зрэалізуеш толькі частку планаў. Дзве першыя дэкады неба падтрымлівае тваю кар'еру, хаця лёгка не будзе, а канкурэнцыю зжырае зайздрасць. Выходзь з хаты, дамаўляйся на сустрэчы. На працы справы прыспешацца, ды пачнуць усклаўняцца. Апануеш сітуацыю, палагодзіш канфлікты, хаця будзе шмат нерваў. Хадзі, катайся на ровары, плавай. Не еж белага печыва, салодкага і не пі моцнага алкаголю.
**(24.09. — 23.10.)** Выкажашся памяркоўнасцю і дыпламатычнасцю. Правядзеш рэвалюцыю ў сваёй шафе. Твае справы будуць плысці памалу ды ў добрым напрамку, і дасягнеш таго, чаго хочаш. З 6.06. (да 12.06.) распаліцца твае жарсці і наладзіш гарачыя адносіны. Добры настрой дзве першыя дэкады чэрвеня. Кар'ера пакуль не прыспешыцца, але не будзеш стаяць у месцы.
**(24.10. — 22.11.)** Не напаткаеш многіх перашкод, але з рэалізацыяй новых задум пачакай да канца месяца. Мілыя сустрэчы і кампанейскія атракцыёны. Рамантычна. З 6.06. (да 12.06.) шанцы для самотных. Цяжкія справы аформіш напяваючы. Маеш моц у сабе, пачні трэніравацца, сядзь на дыету.
**(23.11. — 22.12.)** Рыхтуйся да шалёных прыгод, у якія ўцягнуць цябе знаёмыя. Сустрэнуць цябе ўсе з вялікай сімпатыяй. Твае высілкі будуць прыкмечаны і ацэнены. Будзеш кемлівы, цікавы і жвавы. Пераможаш старыя комплексы і зменіш нявыгадныя схемы. Разумныя рашэнні прынясуць вялікі працэнт прыбытку. Добрая рука да фінансаў і прылiў грошай, стабілізацыя.
**(23.12. — 20.01.)** Можаш здабыць усё, што хочаш, але трэба будзе напрацавацца. 3-4.06. можа табе ўдацца нейкі бізнес. Не памылі сяброўства з каханнем. На працы шанцы, але пакуль не выхіляйся, тым больш не спрачайся з шэфам. Пі менш кавы.
**(21.01. — 19.02.)** Жыццё будзе лягчэйшым і цікавейшым дзякуючы людзям, якія матываюць цябе і памогуць, калі трэба будзе. 4-5.06. вельмі прыемны сюрпрыз, але 3-5.06. не пагубіся ў балагане. 6-8.06. у большай групе пераможаш любыя выклікі. Пры грашах будзь памяркоўным, каб не выдаць усяго! Вадалеі з першай і другой дэкады могуць атрымаць прапанову добрай працы за мяжой.
**(20.02. — 21.03.)** Поўнасцю вызваліўся ад страхаў, комплексаў і абмежаванняў, выкарыстаеш свае магчымасці. Радаснае ажыўленне. Ад 6.06. (да 12.06.) можа паявіцца хтосьці, хто цябе будзе вабіць вельмі рафінавана і элегантна, не адмаўляйся, бо калі бліжэй з ім пазнаёмішся, будзе гэта проста крыніца добрых рыс. На працы выкажашся большай ініцыятывай, і пастарайся абясшкодзіць нейкага канкурэнта, які мея цябе за слабога працаўніка. Пільнуй свае вочы.

Агата АРЛЯНСКАЯ

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714
**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Мірослава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 60 zł., półroczna 120 zł., roczna 240 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# У палескай глыбінцы (88)

Рэчыца здалася самай прыгожай вёскай Ратнаўскага раёна. Здавалася яшчэ, што найпрыгажэйшы бок старажытнай мясціны прыхаваны ад вока, каб не будзіць зайздрасці і ліха. У манаграфіі пра рэгіён пазначана, што ў сяле пражывае ажно 38 мнагадзетных сем'яў, а ўсіх жыхароў каля тысячы трыста чалавек.

Звычайна не люблю бухгалтарскай камунікацыі з дапамогай лічбаў, але ў Рэчыцы дзеялася нешта адваротнае. Сухія лічбы прамаўлялі як прыхаваны прэстыж, ды не абы-які. Вось самая вялікая сямейка з агульнага ліку 38 мнагадзетных хат, кожная з якіх заслугоўвала асобнай увагі. Настаўніца Марыя Кашалюк не ведала як паясніць той феномен. На Палессі заўсёды так было:

— Вось у маіх суседзяў трынаццаць дзяцей, — гаварыла, не хаваючы прызнання, — і ўсе яны як трэба, кожны знайшоў сваё месца...

Ды сямёра з іх закончыла вышэйшыя ўстановы. Прытым дзве дзяўчыны з'ехалі на пастаяннае жыхарства ў Амерыку, а адна падалася ў Нямеччыну. Значная частка сямейнікаў з'ехала вучыцца і жыць у Кіеў, хоць апошняя рэч не выклікала ўжо асаблівага здзіўлення ні зайздрасці. Цягам апошніх гадоў палешукі хлынулі ў сталічны Кіеў. Вось у раённым Ратне ўся залатая моладзь едзе вучыцца ў тэхнічныя і медычныя інстытуты ў Кіеў або ў Польшчу. Іншыя гарады, як Луцк, Роўна ці Львоў, якія яшчэ нядаўна высмоктвалі з палескай глыбінкі ўсе мазгі і таленты, перасталі маніць і прыцягваць.

Праз момант я ўявіла Рэчыцу ў разгар летняга сезона з яе сталічным і міжнародным гоманам... Але дарэмна! Насупраць, сярэдзінай асфальтавай дарогі імчала фурманка. Між гнайніц віднелі няхітрыя тэхнічныя прылады: драўляная барана, самаробныя граблі, саламяная плеценая каробка, мяшкі са збожжам. Белабрысы малады гаспадар зняў шапку і першы прывітаўся. Ды ўсё вярнулася на месца.

«У Рэчыцы ўжо больш за дзвесце коней» — інфармавалі з гонарам у згаданай манаграфіі.

* * *

У Рэчыцу прыехала я паглядзець на веснавое разводдзе на Прыпяці. Сяло распаложанае на беразе маляўнічага возера, праз якое праплывае рака. На першы погляд яна напамінала старую рыбацкую вёску. У 2003 годзе Рэчыца адзначала сваё пяцісотгоддзе. Якраз з таго часу паходзіць першая звестка пра сяло. У ёй пазначаны княжы канфлікт паміж кашырскімі і ковельскімі Сангушкамі. Кожны з іх лічыў Рэчыцу сваёй законнай спадчынай. Шматгадовы канфлікт вырашыла каралева Бона, якая з ковельскімі Сангушкамі абмяняла Рэчыцу на іншую мясціну. Пасля яе смерці сяло стала каралеўскай вёскай.

Усё гэта спрыяла развіццю і прэстыжу сяла ды нешта з таго часу захавалася па сённяшні дзень. У параўнанні з навакольнымі сёламі, а нават раённым Ратнам, Рэчыца явілася задбанай, чыстай і багатай вёскай. Хоць найбольш падабаліся людзі. Шмат вяскоўцаў мела шляхетныя абліччы і ўсе яны здаваліся надзвычай стройнымі. Сваім выглядам напаміналі жыхароў паўночных раёнаў Беларусі і Літвы. Тут таксама не было на віду выпівох з сінімі насамі, якія групкамі выседжвалі ў суседніх вёсках. Нават савецкі помнік, які ўяўляў салдацкую каску і ардынарную зорку з бетону, быў пачышчаны і прыбраны. Падобныя месцы культу на Палессі або знесены, або патанаюць у пустазеллі...

На добрую справу гэты прэстыж і парадак не павінны здзіўляць. Штосьці такога паўтаралася ў многіх прыпрыпяцкіх сёлах, якія ад вякоў жылі і багацелі на лоўлі і гандлі рыбай і вадзяных падарожжах. Рэчыцкія рыбакі дастаўлялі рыбу ў Брэст, Гродна і ў Варшаву, якія да 1939 года явіліся тут партнёрскімі і блізкімі гарадамі. Па дарозе быў яшчэ Пінск, куды падаваліся па дзелавых і духоўных справах.



Царква ў Рэчыцы



Настаўніцы Марыя Кашалюк, Кацярына Філіпюк і спадарыня Леся

Да 1986 года жыхары Рэчыцы абыходзіліся без грунтавой дарогі. У падарожжа выпраўляліся па рацэ. У савецкія гады па Прыпяці курсавалі моталодкі, якімі ў некалькі хвілін можна было дабрацца ў Ратна. Праўда, мясцовыя жанчыны больш давяралі сваім нагам і да *места*, як кажуць у Рэчыцы пра Ратна, хадзілі пешшу. Гэта толькі тры гадзіны маршу, то-бок да дваццаці кіламетраў. Менавіта тая лоўкасць і фізічная спраўнасць рэчычан і сёння кідалася ў вочы.

* * *

— Сапраўдная Прыпяць пачынаецца за Камаровам, — гаварылі ў Ратне, — там рака ўжо са сваімі прытокамі, рукавамі і заплаўнымі далінамі. Там менавіта перастае быць каналам, плыве сваім натуральным рэчышчам і часта разліваецца ўвесну.

У Рэчыцу я трапіла на зыходзе сонца, у цёплы, красавіцкі будзень. Ад рання з неба імжэў дожджык і адначасова свяціла сонца. За сялом распасціралася маляўнічае возера Рэчыцкае. Марыя Кашалюк памятае, як яшчэ нядаўна адтуль насілі ракаў вёдрамі. А рыбы было столькі, што глядзець не хацелася.

Прыпяць таксама напамінала возера, зрэдку ператкане дрэвамі і балотнай расліннасцю. Разлівы падыходзілі ажно пад арэхавую царкву, у якой якраз адпраўлялі вячэрню перад Благавешчаннем. Хаця па вадзе брадзілі статкі чапляў, плавалі качкі і лебедзі, вадзяны ландшафт ззяў жорсткай прыгожасцю і трывогай. Драматургію наклікала неба, на якім змагаліся з сабой цёмна-сінія і фіялетавыя навальнічныя хмары. Час ад часу яны расступаліся, як заслоны ў тэатры, каб выпусціць на волю сонца, якое тапілася і адначасна адбівалася ў бязмежным люстры вады. Паўкіламетра ад рэчышча па неабсяжных разлівах плавалі на пантоне два рыбакі. Іх няспешны занятак здаваўся прывідам і прамаўляў як ідылічная карціна сярод агромністага, прыроднага малюнку. Хоць найбольш здзівіла вясёлка, якая ў выглядзе стаўпа з'явілася ля царквы.

Гэта падштурхнула мяне пазнаёміцца з гісторыяй храма. Аказалася, што рэчыцкая царква славілася на ўсё наваколле званамі. У царкоўных дакументах канца XIX ст. пазначана, што на званіцы было ажно 6 званоў. Найбольшы, адліты ў 1773 годзе, быў прыаздоблены выявамі архангела Міхала і Міколы Цудатворца. Тут жа змяшчаўся надпіс: *«Сооружися кимвал сея да веси Рэчыцы, до храму Архангела Михаила за стараннем свяшчэного иерэя Іакова Михалевича»*.

Апошняя вестка грымнула па сэрцы і мацавала *эга*. Проста, мая радаслоўная па лініі маці выводзіцца ад мяшчанскага роду Міхалевічаў. Як кажуць сямейныя легенды, частка з іх вылучалася шчырай рэлігійнасцю. І вось трэба было мне прыперціся ў Рэчыцу, каб наткнуцца на святароў Міхалевічаў. Царкоўныя крыніцы паведамлялі, што род Міхалевічаў служыў у Рэчыцкай парафіі амаль цэлае сямнаццатае стагоддзе. Неяк з ходу і міжвольна я палюбіла святароў, якія, калі ўлічыць часы і месца, верагодна вучылі мясцовы народ быць прыкладнымі грэка-каталікамі. Апошнюю думку ўнушаў сучасны выгляд царквы св. Мікалая, якую аднавілі ўжо пры незалежнай Украіне ды асвяцілі 22 чэрвеня 1990 года. Хоць яна прыналежала Маскоўскаму патрыярхату, далей стрымлівала палеска-уніяцкі выгляд.

Нідзе як у Рэчыцы гісторыя і сучаснасць падаліся мне моцна і прыгожа з сабой пераплецены.

(працяг будзе)

Фота і тэкст **Ганны КАНДРАЦЮК**



Разводдзе на Прыпяці

ISSN 0546-1960 23